PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 11 (2131) Год XLII Беласток 16 сакавіка 1997 г. Цана 1 зл.

# Песні wolnych Białorusinów



*Людзі хацелі бачыць свайго прэм'ер-міністра.*

Ганна Кандрацюк

IV Агульнапольскі фестываль „Беларуская песня '97" традыцыйна ўжо адбыўся ў Беластоку. Мерапрыемства мела шырокую і разнавідную публіку. Сярод ганаровых гасцей быў прэм'ер РП Уладзімеж Цімашэвіч з жонкай Барбарай, віцэ-маршалак сейма РП Аляксандр Малахоўскі, віцэ-міністр культуры РП Міхал Ягела, старшыня Дзяржаўнага камітэта пры Савеце Міністраў РБ па справах рэлігій і нацыянальнасцей Аляксандр Білык, польскія і беларускія парламентарыі і духавенства. Варта адзначыць і тое, што самымі цікавымі і кранальнымі матывамі фестывалю былі выступленні і ўзнагароды палітыкаў.

Артыстычная частка, якую складалі 33 выканаўчыя адзінкі, была, можна сказаць, дапаўненнем мерапрыемства. У рэпертуары самадзейнікаў паўтараліся фальклорныя і эстрадныя беларускія песні.

— Ja tu przyszedłem zobaczyć naszego premiera, — сказаў Сцяпан Грыгарук з Беластока.

У мерапрыемстве ўдзельнічала за тры тысячы гледачоў. Вялікая колькасць прыехала з Гайнаўкі, Нарвы, Бельска-Падляшскага, навакольных вёсак.

— Z troską obserwujemy to, co dzieje się w sąsiedniej Białorusi, — сказаў прэм'ер Цімашэвіч. — Jestem głęboko przekonany, że ten głos wolnych Białorusinów płynący z Polski będzie krzepił serca ich wszystkich, niezależnie od tego gdzie żyją. Прэм'ер Цімашэвіч рашыўся нават на эксперымент. Прывітаў ён гледачоў на беларускай мове. „Браты беларусы, жадаю вам усяго добрага" — і гэта выклікала энтузіястычныя апладысменты публікі.

Не менш бліскуча выступіў віцэ-маршалак Сейма Аляксандр Малахоўскі. Успомніў ён пра ўклад беларусаў у развіццё польскай культуры. Для прыкладу назваў ён Адама Міцкевіча, польскага класіка жыдоўска-беларускага паходжання. Віцэ-маршалак згануў і пра роўнасць усіх грамадзян Польшчы, нягледзячы на іх нацыянальнасць і рэлігію. Такія словы спадабаліся публіцы.

А пасля выступленняў былі ўзнагароды. Бельская „Маланка" атрымала „на новыя капелюшы" ад спадара Малахоўскага. Прэм'ер Цімашэвіч, як ганаровы старшыня журы і патрон фестывалю, адзначыў крышталёвымі кубкамі гарадоцкі жаночы хор і Агнешку Дамброўскую з нарваўскага „Пронару". Быў таксама крышталёвы кубак ад новага апекуна нацыяналь-

[працяг ☞ 5]

# З'езд Беларускага саюза

Аляксандр Максімюк

**1 сакавіка г.г. адбыўся ў Беластоку III З'езд Беларускага саюза ў Рэчы Паспалітай. Галоўным пытаннем на ім сталі парламенцкія выбары. Удзельнікі З'езда даручылі нававыбранаму кіраўніцтву паўнамоцтвы заключыць выбарчае пагадненне з кіраўніцтвам партыі Унія працы. Шмат увагі на З'ездзе адвялося прысутнасці беларускай праблематыкі ў электронных сродках масавай інфармацыі. Пытанне гэтае завяршылася пастановай аб неабходнасці далейшых намаганняў арганізацыі дзеля стварэння асобнай беларускай рэдакцыі ў рэгіянальным асяродку тэлебачання ў Беластоку.**

Беларускі саюз у Польшчы з'яўляецца федэратыўнай структурай, якая гуртуе сем беларускіх арганізацый: Беларускае аб'яднанне студэнтаў, Беларускае літаратурнае аб'яднанне „Белавежа", Праграмную раду тыднёвіка „Ніва", Культурнае таварыства „Хатка", Беларускае дэмакратычнае аб'яднанне, Беларускае гістарычнае таварыства і Асацыяцыя беларускіх журналістаў. У Беларускі саюз уваходзіць па чатырох прадстаўнікоў ад названых арганізацый, якія лічацца заснавальнікамі Саюза. Беларускі саюз адкрыты на новых членаў, якімі могуць стаць юрыдычныя асобы ў выглядзе, прыкладова, гміны, ці хаця б гаспадарчай суполкі. Аб уваходзе ў Саюз новага члена, а таксама колькасці прадстаўнікоў ад яго, вырашаюць заснавальнікі. Выканаўчым органам саюза з'яўляецца Управа з сямі чалавек, якая выбіраецца З'ездам. Правамоцтвы Управы працягваюцца два гады.

Яўген Вапа, старшыня Саюза, выступаючы на з'ездзе са справаздачай, згануў пра працу Беларускага саюза, накіраваную на ўтварэнне ў рэгіянальным асяродку тэлебачання рэдакцыі перадач на беларускай мове, арганізацыю пастаянных мерапрыемстваў у беларускім асяроддзі (конкурс беларускай літаратуры і паэзіі, літаратурны семінар „Бязмежжа") ды арганізацыю фінансавых сродкаў дзеля правядзення настаўніцкіх канферэнцый і стварэння праграмы для прадшколляў, у якіх навучаецца беларуская мова. Я. Вапа абвяргнуў таксама погляд, быццам Беларускі саюз імкнецца перанясць будынак на вул. Варшаўскай і дадаў, што не будзе маўчання ў тых выпадках, калі ў бок Саюза накіроўваецца фальшывую інсінуацыю.

З інфармацыяй пра дзеянні выбарчай камісіі Саюза выступіў Алег Латышонак. Ён паведаміў, што Беларускі саюз меў дзве сур'ёзныя прапановы выбарчых пагадненняў — ад беластоцкага рэгёна „Салідарнасці" і ад Уніі працы. Беларусам больш карысная прапанова Уніі працы, якая ў стане адвесці кандыдату Беларускага саюза высокае месца на краёвым спіску партыі („Салідарнасць" акалічнасць гэту змаўчала). Да гэтага ж, Унія працы ў беларускім асяроддзі не асацыюецца ні са сваім „салідарніцкім" радаводам, ні з каталіцкасцю, а сваёй праграмай — уяўляе, мабыць, больш левы накірунак, чымсьці СЛД.

З інфармацыяй пра працу сеймавай падкамісіі па пытаннях нацыянальных меншасцей выступіў Ян Чыквін, які быў яе ўдзельнікам. Сутнасць гэтай інфармацыі звялася да паведамлення, што працу падкамісіі перапыніілі прадстаўнікі Міністэрства замежных спраў і **Міністэрства ўнутраных спраў, якое засцерагло для сябе голас у справах нацыянальных меншасцей.**

Перад дыскусіяй на III З'ездзе Беларускага саюза выступілі некаторыя запрошаныя на яго госці. Прывітанні ад імя архіепіскапа Беластоцка-Гданьскага Савы перадаў удзельнікам а. Анатоль Конах, а ад імя Згуртавання беларусаў свету „Бацькаўшчына" — Ганна Сурмач. Яна папрасіла таксама ўдзельнікаў З'езда выказацца наконт месца правядзення З'езда беларусаў свету.

Дыскусію пераважыла пытанне парламенцкіх выбараў. Некаторыя ўдзельнікі, праўда, звярталі ўвагу, што арганізацыі, якія ўваходзяць у Саюз, з'яўляюцца непалітычнымі структурамі, але вызначыць мяжу паміж палітычнай і непалітычнай сферамі грамадзянскай актыўнасці ў наш час ахвотных не знайшлося. Наогул удзельнікі пагадзіліся, што выбар Уніі

[працяг ☞ 4]



*Прэзідыум З'езда: Яўген Вапа, Юры Каліна, Алег Латышонак і Пётр Крук.*

# Мы прачыталі

*W Polsce Ludowej rozwinął się obyczaj odchodzenia polityków ze względu na stan zdrowia. Kto był zbyt chory do aparatu partyjnego, ten mógł się jeszcze nadać do administracji państwowej, komu i na to zdrowie nie pozwalało — ten do NIK, a już zupełnie beznadziejne przypadki kierowano na placówki dyplomatyczne.*

*Przywódcy supermocarstw zabierają ze sobą do szpitala przycisk wyrzutni nuklearnych i personel medyczny musi naprawdę uważać, żeby w zamieszaniu nie wywołać trzeciej wojny światowej.*

*Polityka, nr 7*

* * *

*Больш за 200 бежанцаў з краін блізкага замежжа прыбылі летась на Гомельшчыну. Наседжаныя месцы вымушаны былі пакінуць рускія і беларусы, якія жылі ў Латвіі, Азербайджане, Таджыкістане, Чачні.*

*Голас Радзімы, н-р 9*

* * *

*Poza Policją Państwową mamy 53 służby, straże, inspekcje zatrudniające 320 tysięcy osób. Jeżeli do tego dodamy pracowników agencji ochrony, otrzymamy gigantyczną, prawie półmilionową armię, która może nas śledzić, podsłuchiwać, kontrolować — w domu, w pracy, na drodze, na granicy, w autobusach.*

*Ciemna jest liczba podglądających nas i podsłuchujących. Dzisiaj w każdej centrali telefonicznej istnieją tzw. pokoje eksperymentalne, w których można podłączyć się do linii i podsłuchiwać obywateli. Są jeszcze entuzjaści donosów, podsłuchiwania, którzy robią to za darmo, spontanicznie. Niebezpieczne mogą być także społeczne służby parkingowe. W Gdańsku przez pomyłkę, dobrowolni strażnicy pobili kierowcę, który chciał wsiąść do własnego samochodu. Na Bogu ducha winnych kioskarzy z kolei czyhają zupełnie już bezprawnie lotne patrole antypornograficzne.*

*Polityka, nr 8*

* * *

*Programy polskiego radia i telewizji są demoralizujące, antyreligijne, nie szanują uczuć patriotycznych, wartości religijnych i narodowych,* — піша каталіцкі вучоны Рышард Бендэр.

*Kurier Poranny, nr 44*

Мы таксама выказваемся за тое, каб жанчыны, якія выступаюць у тэлебачанні, мелі закрыты твар прынамсі да паловы носа. Можа гэта быць нават форма вопраткі паводле ўзору хлопцаў з антытэрарыстычных падраздзяленняў. Неабавязкова нам браць прыклад з Ірана, а хутчэй за ўсё трэба трымацца ўласнай традыцыі.

* * *

*Świadomość ukształtowana przez telewizję, radio i polskojęzyczną prasę spowodowała zanik umiejętności samodzielnego myślenia. To nie tylko wina rodzimych zdrajców, dywersantów o polskich nazwiskach oddanych w służbie interesom sowieckim, żydowskim, niemieckim, ale każdego z nas, kto przyjmuje postawę braku czujności wobec wrogów. To także wina tzw. elit nafaszerowanych elementem obcym i wyobcowanym z narodu,* — піша дзеяч „Салідарнасці” Зыгмунт Вжодак.

*Tygodnik Solidarność, nr 8*

* * *

*„Solidarność-80” w hucie Sendzimira chce, by dyrekcja liberalniej traktowała ludzi przychodzących do pracy po alkoholu. Związkowcy uważają, że nie należy zwalniać z pracy ludzi, którzy przed pracą coś wypili.*

*Gazeta Wyborcza, nr 48*

Цешыць нас, што прафсаюз звярнуў увагу на сапраўдныя праблемы рабочага люду і выступіў у абарону яго інтарэсаў.

* * *

*Prezydent Ekwadoru występował w zespole rockowym, chciał grać w piłkarskiej reprezentacji kraju w piłce nożnej, w końcu został uznany za niepoczytalnego. Podczas ubiegłorocznych wyborów prezydenckich kandydaci wyzywali się od bandytów, koniokradów, a nawet morderców.*

*Polityka, nr 8*

А мы тут наракаем на Кваснеўскага, што любіць „drinka” ці на Лукашэнку, што будуе рынкавы камунізм.

* * *

*Na powitanie ambasadora Białorusi w Bydgoszczy temtejszy Urząd Wojewódzki przybrano biało-czerwono-białymi flagami. Wojewoda bydgoski wyjaśnił, że nie ma aktualnie obowiązującej flagi Białorusi.*

*Gazeta Wyborcza, nr 46*

Апошнюю забралі ў мясцовы музей рэвалюцыйнага руху.

* * *

*Mężczyźni wstańcie z kolan — kochamy bohaterów, a nie tchórzy, wzywały kobiety Mińska, które wyszły na ulice miasta protestując przeciw polityce gospodarczej Łukaszenki. Podpisywano rezolucję sprzeciwiającą się „wzrostowi wydatków na utrzymanie oddziałów milicji do walki z własnym narodem oraz państwowemu chamstwu, poniżaniu i szczuciu obywateli”.*

*Gazeta Wyborcza, nr 46*

# З мінулага тыдня

1 сакавіка г.г. **Польшча** абняла на месячны тэрмін старшынства **Савета Бяспекі Арганізацыі Аб'яднаных Нацый**. Савет Бяспекі налічвае 15 членаў, у тым ліку 5 пастаянных членаў з правам вета (Вялікабрытанія, ЗША, Кітай, Расея, Францыя). 10 часовых членаў выбіраюцца на двухгадовы тэрмін (цяпер: Гвінея-Бісаў, Егіпет, Кастарыка, Кенія, Партугалія, Паўднёвая Карэя, Польшча, Чылі, Швецыя і Японія). У 50-гадовай гісторыі ААН Польшча засядае ў Савеце Бяпекі пяты раз.

**Прэм'ер-міністр Владзімеж Цімашэвіч**, які быў госцем гала-канцэрта IV Фестывалю „Беларуская песня '97”, выступаючы перад выканаўцамі і публікай, заявіў: „Я таксама хацеў бы, каб гэтая наша сустрэча і гэтая вялікая падзея, якой удзельнікам з'яўляюся, была важным голасам і сігналам сімпатыі, накіраваным беларусам па другім баку граніцы. Мы клапоцімся тым, што адбываецца ў суседняй Беларусі, турбуемся складанымі, нявырашанымі там справамі, але жадаем беларусам усяго найлепшага. Я перакананы ў тым, што голас вольных беларусаў, які плыве з Польшчы, будзе ўзнімаць дух усіх беларусаў, нягледзячы на месца іх пражывання”. Высокі госць закончыў сваё выступленне па-беларуску: „Шаноўныя сябры, паважаныя браты беларусы, жадаю вам усяго добрага ў вашых сем'ях і вашых хатах!”

**Унія працы** хоча, каб на выбарчых спісках гэтай партыі апынуліся праваслаўныя і прадстаўнікі беларускай нацыянальнай меншасці ў Польшчы, — заявіў на прэс-канферэнцыі ў Беластоку віцэ-маршалак Сейма **Аляксандр Малахоўскі**, які з'яўляецца таксама ганаровым старшынёю УП. Назваў ён гэта экуменічнай ніццю ў дзейнасці Уніі працы. Паводле яго, прысутнасць на адным выбарчым спіску католікаў і праваслаўных, а таксама прадстаўнікоў нацыянальных меншасцей, мае вялікае значэнне ў палітыцы, паколькі рэлігійныя і нацыянальныя канфлікты вельмі шкодзяць Польшчы на міжнароднай арэне. Аляксандр Малахоўскі не выключыў магчымасці прад'яўлення месц на спісках УП прадстаўнікам іншых меншасцей.

**III Манастырскі аўкцыён**, арганізаваны Свята-Мікалаеўскім брацтвам у Беластоку, прапанаваў пакупнікам іконы, карціны, біжутэрыю, фарфор, кнігі, альбомы і вырабы народнага мастацтва, ахвяраваныя вернікамі. Найбольшая сума (700 зл.) паступіла ад продажу старажытнай іконы з Пачаеўскай лаўры. Увесь даход з гэтага аўкцыёна (1 700 зл.) папоўніць фонд рамонту будынкаў Благавешчанскага манастыра ў Супраслі. Да гэтай пары згаданае брацтва перадало ўжо 3 500 зл. з папярэдніх аўкцыёнаў.

**Самаўрадавы сеймік Беластоцкага ваяводства** падвёў вынікі акцыі „Самакіраванне — так, самотнасць — не”. За поспехі ў развіцці культуры ўзнагароджаны былі 19 гмін. Нараўка і Лапы атрымалі ўзнагароды маршалка Самаўрадавага сейміка, Бельск-Падляшскі, Чорная-Беластоцкая, Чыжы і Карыцін — узнагароды Ваяводскай управы. Дзве гміны — Бельск-Падляшскі і Нараўка — атрымалі статуэткі „Самакіраванне — так, самотнасць — не”.

**У Семяноўцы** адбылося пасяджэнне Грамадска-навуковай рады Белавежскай пушчы, прысвечанае абмеркаванню такіх магчымасцей транспарту таксічных грузаў, які абмінаў бы прыпушчанскія гміны. Перавоз атрутных рэчываў чыгуначным транспартам праз Семяноўскае вадасховішча ад даўжэйшага часу выклікае шмат эмоцый і пратэстаў.



# Весткі з Беларусі

**Рэкамендацыі Еўрасаюза**

Чарговае пасяджэнне Савета Міністраў краін-членаў Еўрапейскага Саюза адбылося ў канцы лютага ў Брусэле. Сярод іншых пытанняў абмяркоўваўся даклад аб сітуацыі ў Беларусі, падрыхтаваны па выніках знаходжання ў рэспубліцы з 26 па 31 студзеня г.г. місіі экспертаў Еўрасаюза. Беларускае міністэрства замежных спраў паінфармавала, што падчас пасяджэння былі адобраны рэкамендацыі ўдзельнікаў місіі, што датычацца палітычнай і канстытуцыйнай рэформы Беларусі і выказана гатоўнасць з боку ЕС садзейнічаць іх рэалізацыі. Савет Міністраў Еўрасаюза прыняў рашэнне ўстрымацца ад абвяшчэння гэтых рэкамендацый да моманту ўручэння афіцыйнага дакумента кіраўніцтву Беларусі. З гэтай мэтай у пачатку сакавіка кіраўнік місіі Ары Коста паўторна наведаў Менск для сустрэчы з прэзідэнтам Аляксандрам Лукашэнкам.

**Палітычная вясна**

Каля 5 тысяч мянчан прыняло ўдзел у арганізаваным БНФам антыпрэзідэнцкім мітынгу, які быў прытэрмінаваны да 930-годдзя з дня заснавання горада. Удзельнікі акцыі назвалі яго пачаткам палітычнай вясны ў Беларусі. Яны выступілі супраць планаў аб'яднання Расеі і Беларусі. Мерапрыемства завяршылася вулічным спектаклем „Цар Алексашка”, у якім крытыкавалася палітыка прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі. Міліцыя затрымала Барыса Гюнтэра і Вячаслава Сіўчыка — арганізатараў акцыі, а таксама шафёра БНФ Язэпа Такушэвіча.

**Трагедыя ля трубы**

Чацвёра будаўнікоў былі пахаваны зажыва пад абломкамі 20-метровай цаглянай трубы старой кацельні калгаса „Світанне” Менскага раёна. Трагедыя здарылася ў момант, калі брыгада рабочых рыхтавала трубу да зносу. Цудам уцалелі два будаўнікі, якія ў момант катастрофы знаходзіліся пад аховай страховачных канструкцый.

**Новая місія**

Пастаяннае прадстаўніцтва Міжнароднай арганізацыі па міграцыі адкрылася ў Менску. Узначаліў місію спецыяльны прадстаўнік МАМ у Беларусі Яры Фіргела. Міжнародная арганізацыя па міграцыі створана ў 1951 годзе дзеля рэгулявання міграцыйных працэсаў на ўсім свеце. За час існавання яна дапамагла васьмю мільёнам бежанцаў, вымушаных перасяленцаў з розных дзяржаў планеты атрымаць жыллё, работу і гарантыі бяспечнага жыцця на новым месцы.

**Польская фантастыка**

Праграму польскай фантастыкі, якая праходзіла ў сталічным кінатэатры „Перамога”, маглі паглядзець жыхары Менска. Прэзентаваліся пяць карцін, створаных кінематаграфістамі суседняй дзяржавы ў 80-х гадах. Аматары заглянуць у будучыню мелі магчымасць паглядзець фільмы „Слабыя месцы”, „Алхімік” і іншыя. Праграму арганізаваў Польскі інстытут у Менску.

**Аштрафаваныя прафсаюзы**

500 тысяч рублёў штрафу прад'яўлена прэзідэнту Беларускага кангрэса дэмакратычных прафсаюзаў Генадзю Быкаву за несанкцыяніраванае пікетаванне 11 і 24 лютага будынкаў Міністэрства юстыцыі, Дома ўрада і Адміністрацыі прэзідэнта. Судамі асуджаны таксама і іншыя ўдзельнікі пікетаў, якім прад'яўлены штрафы ў меншых памерах. У пікетаванні ўдзельнічала сорак чалавек. Акцыя была арганізавана ў знак пратэсту супраць адмовы рэгістрацыі кангрэсу.

**Банкаўская злачыннасць**

Рост злачыннасці ў банкаўскай сферы — вынік аслаблення кантролю за гэтай галіной. Распаўсюджанай стала незаконная выдача крэдытаў. Толькі ў 1996 годзе па фактах выдачы крэдытаў узбуджана 403 крымінальныя справы. Такім чынам дзяржава нясе вялізныя страты. Напрыклад, з чатырох банкаў — „Дукат”, „Інтэкс”, „Садружнасць” і „Магнат-банк” — злачынцы летась атрымалі крэдытаў на 103 млрд. рублёў.

**Юбілей аўтамата**

Паўвека споўнілася аўтамату Калашнікава — непераўзыдзенай стралковай зброі вядомай усяму свету. Напярэдадні памятнай даты яго стваральнік Міхаіл Калашнікаў прызнаўся ў інтэрв'ю ІТАР-ТАССу: „Я даўно чакаю, хто зробіць лепшы, чым наш расейскі аўтамат. І першы пацісну гэтаму чалавеку руку”.

# Сход пажарнікаў

У канцы лютага г.г. адбыўся справаздачны сход Добраахвотнай пажарнай каманды ў вёсцы Бялкі, якая знаходзіцца ў гміне Нарва.

Каманда налічвае 17 пажарнікаў. На сходзе ў састаў каманды прынялі яшчэ аднаго маладога гаспадара. Новаспечаным пажарнікам стаў Аляксандр Нікіцюк. Пажарнікі ў Белках — гэта пераважна старэйшыя сяляне, пенсіянеры. Вырашылі яны, што прыйшоў ужо час, каб перадаць уладу ў маладыя рукі.

Пажарная каманда, паводле дакументаў, існуе ад 1947 года. Узнікла яна аднак намнога раней, толькі брак папераў, каб гэта даказаць. Тут яшчэ знаходзіцца ў вельмі добрым стане ручная двухклапанная помпа, якою ўручную пампавалі ваду падчас пажараў. Гэтая помпа цяпер падыходзіць толькі ў музей, але сяляне купілі яе за свае грошы і дасюль гэтую прыладу шануюць. Цяпер у пажарнікаў ёсць мотапомпа і 600 метраў шлангаў.

Пажарнікі перавыбралі ўлады. Старшынёю пажарнай каманды стаў Іван Андраюк, начальнікам — Мікалай Амельянюк, намеснікам начальніка — Мікалай Семянюк, сакратаром — Сцяпан Семянюк, скарбнікам — Аляксандр Нікіцюк, а механікам мотапомпы — Віктар Краўчук.

Старэйшыя пажарнікі не пакінулі радоў каманды. Яны паабяцалі, што ў меру сваіх сіл будуць супрацоўнічаць і дапамагаць маладым пажарнікам.

**Мікалай Лук'янюк**

# У Баранавічах

Больш за 140 калекіх дзяцей усіх веравызнанняў удзельнічала ў сустрэчы з нагоды Дня хворага, якая была арганізавана ў Баранавічах айцамі-вербістамі і сёстрамі-місіянеркамі Святога Сямейства. З Ольштына паехала сем дзетак з каталіцкай парафіі св. Юзафа; я быў там іх апекуном і перакладчыкам. Сустрэча адбывалася пад лозунгам „Спалучаючы сваё цярпенне з цярпеннем Хрыста дапамагаеш збавіць свет". Альштынскія дзеці паставілі пабеларуску інсцэніроўку нараджэння Хрыста. Радаснымі хвілінамі былі супольныя спевы і гульні.

**Андрэй Гаўрылюк**

# Новыя „Сустрэчы"

Пасля некалькіх гадоў цішыні ў беларускім студэнцкім руху пачынаецца нешта варушыцца. Як мы ўжо інфармавалі, у мінулым годзе ў Варшаве аднавіліся структуры Беларускага аб'яднання студэнтаў, а неўзабаве паспрабавалі арганізавацца студэнты беластоцкіх вышэйшых установ. Пару тыдняў таму адбыўся чарговы з'езд БАСу, які выбраў новыя ўлады. У знакамітай большасці працэс адраджэння беларускага студэнцкага руху пачалі спадарыні і спадары з наймалодшых курсаў, што дае шанц стварэння нечага новага і арыгінальнага ў гэтым асяроддзі.

Як сімвал ажыўлення студэнцкага руху з'явіўся новы (першы?) нумар „Сустрэч". Пасля шматгадовага перапынку гэта асаблівая з'ява. Першыя рэдактары і стваральнікі гэтага часопіса працуюць сёння журналістамі „Нівы" і беларускай секцыі Беластоцкага радыё. Хаця сёлета рэдактары „Сустрэч" заяўляюць, што неўзабаве „охшаняць" і „Ніву", аднак спадзяемся, што некаторыя з іх раней ці пазней трапяць да нас як супрацоўнікі нашай рэдакцыі. Такой менавіта ёсць традыцыя і логіка нашага тут існавання. Добра, што вырастае новае пакаленне беларусаў, якія прабуюць пісаць і самі рэдагаваць часопіс паводле сваіх меркаванняў. У такі спосаб найхутчэй чалавек атрымлівае тыя веды, якіх гадамі вучаць на факультэтах журналістыкі.

Магчыма, што пра змест часопіса найлепш пакуль што было б не згадваць. Пачаткі амаль ніколі не бываюць лёгкімі. Сярод паэзіі і асаблівага гумару ў першым нумары новых „Сустрэч" вылучаецца матэрыял пра сітуацыю на беларускай філалогіі ў Варшаве. На першым курсе сярод 35 студэнтаў толькі чатырох мелі нейкае „дачыненне да беларускай мовы", г.зн. прыйшлі з беларускага асяроддзя. Адзін з гэтай чацвёркі, рэдактар „Сустрэч", вырашыў запытаць сваіх польскіх калег, чаму яны выбралі беларускую філалогію як напрамак сваёй далейшай адукацыі. Адна асоба адказала, што недалёка жыве ад вучэлішча, іншыя гаварылі, што трэба недзе вучыцца, а на беларускай філалогіі найменш кандыдатаў і прымалі сюды без экзаменаў. Хлопцы адказвалі, што такім чынам прыхаваліся яны ад вайсковай службы, а найбольш маладых гаварылі, што нават не ведаюць, чаму менавіта тут прыйшлося ім вучыцца.

Рэдактарам „Сустрэч" жадаем далейшага энтузіязму, які раней, для стваральнікаў БАСу і „Сустрэч" у 80-х гадах, з'яўляўся галоўным рухавіком іх студэнцкай дзейнасці.

**(рэд.)**

# Аптымістычны прагноз?

Яшчэ нядаўна пісаў я на старонках „Нівы", што чаромхаўскі рынак заваленым быў рускай гарэлкай. За літр гарэлкі плацілася 12-13 зл. За літр спірту („польскай вытворчасці") — 20 тыс. зл. Зараз цэны павялічыліся. Гарэлка каштуе 15-16 зл., спірт — 24. Гэтага апошняга і так зусім не бывае. Пасля Новага года зменшылася колькасць прадаўцоў з-за ўсходняй мяжы. Даўней самыя „рускія" на рыначку сталі. Некалькі дзесятак у дзень налічвалася. У апошні час некалькі чалавек усяго прадае.

Не знаходжу прычыны так раптоўнага заняпаду продажу алкагольных напіткаў, прывезеных з-за мяжы. Пэўна зіма пасадзейнічала. Холадна стаяць на рынку, а кліентаў штораз менш, бо адкуль грошы ў апівохі?

А мо ўвялічаны стан паліцыянтаў на чаромхаўскім пастарунку і іхнія часцейшыя кантролі на рыначку былі прычынай гэтага заняпаду?..

У адной з ранішніх тэлеперадач „Кава ці гарбата" я пачуў, што ў мінулым годзе на аднаго чалавека выпадала ў нас 8,5 літра алкагольных напіткаў. Найбольш выпівалі мы піва, затым, шыпучага шампанскага. На трэцім месцы — чыстай гарэлкі. Гэтай апошняй налічваецца зараз у Польшчы каля тысячы відаў (так паказвае „Штандар Млодых"). Як канстатуюць аўтары гэтых статыстык, мы занялі ніжняе месца ў параўнанні да мінулых гадоў спажывання алкаголю на аднаго чалавека. Няўжо гэтыя дзве статыстыкі даюць нам аптымістычны прагноз?

**(ус)**

# Ці будзе спакойны Беласток

21 лютага г.г. цэлы ранак Беластоцкае радыё бубніла і пыталася ў сваіх слухачоў ці Беласток ёсць і ці будзе спакойным горадам. Чуваць было розныя адказы ў эфіры. На маю думку, Беласток не быў бяспечным горадам і не будзе ім ніколі.

Тут, каб не быць галаслоўным, трэба шчыра паказаць некалькі прыкладаў і ўспомніць мінуўшчыну.

Пры камуне, хаця міліцыя хадзіла пяшком або ездзіла на роварах, але злачынцаў тады было намнога менш, чым цяпер.

Часта можна было ўбачыць пешы патруль, які складаўся з міліцыянера і дружынніка ОРМО. Яны добраахвотна, без ніякай аплаты, супрацоўнічалі з міліцыяй, дапамагаючы ім у ахове насельніцтва гарадоў і вёсак. Калі ў 1989 годзе змяніўмя дзяржаўны лад, ОРМО распусцілі, міліцыю перахрысцілі ў паліцыю. Але гэта не перашкодзіла росту хуліганства, якое стала дзейнічаць амаль адкрыта. Калі хтосьці паведамляў камісарыят аб якім-небудзь злачынстве, паліцыянт, хоць гэта было зусім блізка, не ішоў туды пяшком, а толькі чакаў, часам больш як гадзіну, самахода, каб туды даехаць; а калі ўжо прыбываў на месца здарэння, было ўжо запозна, каб злавіць злачынцу.

Салідарнікі пачалі крычаць, што члены ОРМО — гэта сышчыкі, яўныя шпіёны і трэба іх судзіць. Не бачылі салідарнікі, ці не хацелі ведаць, колькі чалавек загінула ад узброенага падполля толькі за тое, што ахоўвалі парадак у дзяржаве.

Цяпер, калі ўлады ў краіне мяняюцца як у калейдаскопе, ніхто не хоча супрацоўнічаць з паліцыяй і не будзе, бо цераз год-два могуць яго абвінаваціць у здрадніцтве, шпіёнстве і іншых грахах.

Другая справа, прайдзіцеся вы вуліцай Складоўскай у Беластоку і падзівіцеся на сходы Ваяводскага суда. Там па чатыры-пяць паліцыянтаў стаяць ды кураць папяросы, а дым ідзе як з заводскага коміна.

Па-трэцяе, павышаюць штаты ў ваяводскіх і раённых камендатурах паліцыі для бюракратаў, а ў камісарыятах па гарадах і гмінах паліцыянтаў не прыбывае. Рэдка калі ўбачыш пешы патруль на базарах Беласточчыны, а калі ўжо ён і пройдзецца, то толькі каб пераглянуцца позіркам з гандлярамі спіртам, а потым у зацішным месцы пабаляваць.

На маю думку, калі не памяняюцца арганізацыйная структура і метады працы паліцыі, то Беласток ніколі не будзе спакойным горадам. Больш небяспечнымі стануць таксама і раённыя гарады.

**Мікалай Лук'янюк**

# Nie ma takiego numeru

*Трэба было мне патэлефанаваць у бібліятэку, але не ведаў яе нумару. Дзеля чаго ёсць, аднак, аб'ёмістая кніга „Спіс тэлефонаў Беластоцкага ваяводства '97", якую нядаўна распаўсюджвалі з вялікім шумам?*

*Пошукі пачаў я з жоўтай часткі — спісу тэлефонаў фірмаў і ўстаноў паводле спецыяльнасці. Алфавітны індэкс назваў паказваў, што „бібліятэкі" памешчаныя ў рубрыцы: „кніжкі". Але, хаця гэтая рубрыка займае ўсяго крыху больш калонкі месца, а я чытаў яе мінут пятнаццаць, ад пачатку і ад канца, і з сярэдзіны — ніводнай бібліятэкі не знайшоў. Знайшоў там, затое, нумар тэлефона „Часопіса", якога дарма шукаць у рубрыцы: „прэса".*

*„Часопісу", аднак, у параўнанні з „Нівай", і так пашанцавала, бо памешчаны ён у ружовай частцы — алфавітным спіску фірмаў і ўстаноў — паміж іншымі рэдакцыямі. Нашу газету можна знайсці там толькі як* ***Праграмную раду тыднёвіка „Ніва"****, выдаўцом якой з'яўляецца* ***Kurier Podlaski Spółdzielnia Pracy*** *(?!). Няхай нікога не збівае з панталыку такое тэрміналагічнае дзіва — гэта мы.*

*З тэлефоннай кніжкі даведаўся я, што хаця жыву ў Бельску шэсць гадоў, слаба ведаю горад і беларускае жыццё ў ім. Супраць майму перакананню, што Беларускае грамадска-культурнае таварыства даўно ўжо не мае ў нашым горадзе сваёй сядзібы, на 59 старонцы ружовай часткі знаходжу і адрас, і тэлефон. Што за ліха? Аж паехаў я і праверыў. На месцы старога клуба БГКТ (адрас у кніжцы той сам) — натарыус. Пад нумарам (таксама старым) ніхто не адазваўся.*

*„Спіс тэлефонаў Беластоцкага ваяводства '97" — кніга, што ні кажы, тоўстая, у больш чым 600 старонак. Ці ўсе яны сапраўды патрэбныя? Без сумнення пакідаю белыя старонкі, з прозвішчамі прыватных абанентаў — тут нават не ўсе ёсць, як хаця б тыя, каму тэлефон падключылі ў снежні. Буду трымацца адно прыкладаў з Бельска і толькі з ружовай часткі.* ***Światowy Związek Żołnierzy Armii Krajowej Zarząd Obwodu*** *паяўляецца два разы і то на суседніх старонках (61 і 62). Тое самае з усімі школамі. Раз ідуць паводле алфавітнага парадку назваў, а зараз побач — пад рубрыкай „школы". Можна сказаць: а колькі ж тых школ у Бельску? Тым не менш, навошта пісаць іх два разы, па-суседску? Не аблягчае гэта, напэўна, пошукаў патрэбнага нумара.*

*Не ведаю, ці прыведзеныя прыклады, гэта ўжо ўсе хібы і недаробкі беластоцкай тэлефоннай кніжкі. Не было ў мяне намеру спецыяльна іх шукаць. Гэта проста тое, што трапіла на вочы падчас практычнага карыстання ёю. Памылкі здараюцца ўсюды. Не робіць іх толькі той, хто нічога не робіць. Нідзе я, аднак, не бачыў і не чуў, каб хто-небудзь перапрасіў за гэтыя ў кніжцы. Затое, не раз сустрэўся я з заявамі, што пасля такога попыту на кніжку сёлета, на другі год будзе яна распаўсюджвацца за грошы.*

*Тэлефонная кніжка ва ўсім свеце акупаецца за кошт рэклам. Нягледзячы на гэта, з'яўляецца яна часткай тэлекамунікацыйнай паслугі. Добра было б, каб* ***Telekomunikacja Polska SA****, разам з павышэннем цаны паслугі, падбала таксама пра яе якасць.*

***Мікола Ваўранюк***

# Ці адбудзецца З’езд беларусаў свету?

**Гутарка з Ганнай СУРМАЧ — старшынёй Рады Згуртавання беларусаў свету „Бацькаўшчына".**

***— Згуртаванне беларусаў свету „Бацькаўшчына" паўстала ў 1990 г. як арганізацыя, якая служыць перш за ўсё тым беларусам, якія ў савецкі час пазбаўлены былі сувязі з Радзімай. У якім становішчы апынулася „Бацькаўшчына" цяпер, калі перыяд адноснай дэмакратызацыі ў Беларусі належыць ужо мінуўшчыне?***

— Складаны перш за ўсё наш матэрыяльны стан. Найперш па прычыне арэнднай платы за памяшканне велічынёй у 280 квадратных метраў. Не маем ніякіх ільгот і мусім плаціць па 10 долараў за квадратны метр у месяц.

Пасля Новага года праслалі нам рахунак на тры ранейшыя месяцы, з кастрычніка. Такім чынам навесілі нам штучны доўг.

***— Чым тлумачыце такія паводзіны ўлад?***

— Наша памяшканне знаходзіцца ў цэнтры горада, у будынку, які мае ўнікальную гістарычную каштоўнасць. Тут памяшчаўся калісь Інстытут беларускай культуры, славуты Інбелкульт. У праграме „Беларусы ў свеце" ёсць утварэнне Беларускага дому. У згаданым будынку нам далі адзін паверх, а два — Навуковаму культурна-асветнаму цэнтру імя Ф. Скарыны. Мы разам адрамантавалі будынак, асвоілі яго, стварылі Музей беларускай эміграцыі. Такім чынам Беларускі дом, хаця не ў поўным аб'ёме, але ёсць. Калі нас выселяць, нашы памяшканні зоймуць камерсанты і Беларускі дом будзе знішчожаны.

***— Усё ж такі, нягледзячы на абставіны, Згуртаванне „Бацькаўшчына" збіраецца правесці З'езд беларусаў свету?***

— Створаны аргкамітэт. Яго ганаровы старшыня — Васіль Быкаў, сустаршыні — гэта Радзім Гарэцкі, прэзідэнт ЗБС „Бацькаўшчына" і Пятро Краўчанка, старшыня парламенцкай камісіі замежных спраў. Я — старшыня рабочай групы.

***— Як ставяцца да вашай ініцыятывы дзяржаўныя ўлады?***

— Мы накіравалі прэзідэнту Аляксандру Лукашэнку пісьмо, што рыхтуемся да З'езда беларусаў свету. Не прасілі мы дазволу, бо згодна са статутам маем права правесці з'езд як у Беларусі, так і па-за межамі. Проста паведамілі і ў той жа час запрашаем дзяржаўныя ўлады да ўдзелу.

***— Які быў адказ?***

— Дзеля абмеркавання гэтага пытання адбылася нарада, у якой прынялі ўдзел Радзім Гарэцкі са мною з боку Згуртавання, а з прэзідэнцкага боку Аляксандр Білык, які ўзначальвае Дзяржаўны камітэт па справах рэлігіі і нацыянальнасцей (камітэт мае займацца як нацыянальнымі меншасцямі ў Беларусі, так і беларускім замежжам), прадстаўнікі Міністэрства культуры, Таварыства „Радзіма", Таварыства дружбы з замежнымі краінамі і Савета Міністраў.

Пасяджэнне вёў дарадчык прэзідэнта Сяргей Посахаў. Ён прадставіў пазіцыі дзяржаўных улад, што З'езд не павінен быць палітызаваны і не павінен засяроджвацца на крытыцы ўлад. Пыталіся нас таксама, чаму гэта мае быць З'езд беларусаў свету, а не З'езд выхадцаў з Беларусі. Для нас гэта не было пытанне. Няхай улады арганізуюць, што хочуць. Мы і так запрашаем да ўдзелу іншыя нацыі, але нас цікавіць перш за ўсё беларуская нацыя.

***— А што наконт таго, што З'езд не павінен быць палітызаваны і не засяроджвацца на крытыцы ўлад?***

— Мы звернемся з пытаннем да беларускага замежжа, ці людзі прыедуць на такіх умовах?

***— Загадзя можна адказаць, што шмат хто не згодзіцца...***

— Некаторыя згодзяцца. Усё-такі, паміма натужных стараннях дзяржаўных структур, эміграцыя ў цэлым не ідзе на згоду. Не было яе практычна на г.зв. Усебеларускім сходзе, арганізаваным прэзідэнтам Лукашэнкам.

26 лютага ў Маскве наладжана была канферэнцыя „Расія — Беларусь. Мінулае, сучаснасць, будучыня". Арганізатары меркавалі, што збяруць беларусаў Расіі і яны падтрымаюць ідэю аб'яднання з Беларуссю, але гэта відаць не ўдалося, бо нічога аб тым у сродках масавай інфармацыі не гаварылі. А з Беларусі на канферэнцыю паехаў цэлы цягнік удзельнікаў.

***— Дык што са З'ездам?***

— На пачатку сакавіка маем пазнаваць сп. Посахаву і прадставіць свае пазіцыі. І самі думаем, што рабіць, калі дзяржава не падтрымае нас. Пытанне стаіць рубам: не праводзіць З'езд нельга і праводзіць у такіх абставінах нельга. Усё-такі мы вымушаны правесці З'езд у любым выпадку, бо канчаецца тэрмін паўнамоцтваў кіруючых органаў. Можам толькі рашаць, ці правесці З'езд як маштабнае мерапрыемства, ці проста правесці перавыбары.



***— У гэтым другім выпадку неабавязкова праводзіць З'езд у Мінску.***

— У нас ёсць думка, што любое беларускае мерапрыемства ў Мінску ўсё ж такі на карысць Беларусі і яно можа быць праведзенае ў канструктыўным русле: культуры, мовы, дэмаграфіі, фізічнае захаванне нацыі. Будзе магчымасць сустрэцца разам, замацаваць сваю супольнасць, адчуць падтрымку адзін аднаго. Гэта вельмі важна. Дагэтуль мы стараліся сабраць людзей прынамсі раз у год. Гэты З'езд застаўся б мерапрыемствам грамадскіх сіл, з удзелам дзяржавы.

***— Ці прадстаўнікі дзяржавы ставілі яшчэ іншыя пытанні?***

— Пытанні выклікала тэма З'езда. „Праблема захавання беларускай прысутнасці ў свеце". Мы патлумачылі, што маем на ўвазе захаванне беларускасці як у самой Беларусі, так і па-за яе межамі. Падтрымкі патрабуюць беларусы ў краінах былога Савецкага Саюза, якія толькі арганізуюцца. Апрача гэтага ім патрэбная дапамога ў чыста жыццёвых пытаннях. Шмат беларусаў жыве ў месцах, дзе ім пагражае непасрэдная небяспека: у Чачні, Таджыкістане, Прыднястроўі. Многія хацелі б вярнуцца ў Беларусь, але няма ніякай дзяржаўнай палітыкі ў гэтай справе. Мы прапанавалі весці дзяржаўную рэгістрацыю тых, якія хочуць вярнуцца на бацькаўшчыну і паступова іх прымаць. Ёсць таксама пытанні заканадаўства. Патрэбны, напрыклад, закон аб правах замежных беларусаў у Рэспубліцы Беларусь: набываць маёмасць, адкрываць фірмы; наогул прывілеі і палёгкі.

***— У Польшчы нічога такога няма, хаця шмат аб тым гаварылася.***

— Мы — нацыя, якая вымірае і павінны дбаць пра кожнага беларуса. Трэба прыцягваць беларусаў з усяго свету чым толькі можам.

**Гутарыў Алег Латышонак**

*Фота Ганны Кандрацюк*

# З’езд Беларускага саюза

[1 ☞ *працяг*]

працы, як выбарчага саюзніка — трапны. Наконт месца правядзення З'езда беларусаў свету Згуртаваннем „Бацькаўшчына", погляды падзяліліся. З аднаго боку, месцам гэтым павінен быць Менск — „Бацькаўшчына", нягледзячы на палітыку адміністрацыі, не павінна здаваць там сваіх пазіцый. Але з другога — існуе небяспека, што з'езд гэты можа стаць прадметам маніпуляцыі ў руках гэтай жа ўрадавай адміністрацыі. Закранаюся злёгку на З'ездзе Саюза і асветныя пытанні. Удзельнікі згадзіліся, што ў школах, дзе навучаецца беларуская мова і ўрокі Закону Божага павінны праводзіцца на гэтай мове. Белай плямай у навучанні беларускай мовы з'яўляецца дагэтуль горад Беласток. Барбара Пякарская паведаміла, што пачаткі беларускай асветы ўжо закладзены тут — у выглядзе двух прадшкольных аддзелаў. Выпускнікі гэтых аддзелаў складуць аснову навучання беларускай мовы ў адной з беластоцкіх школ. Станецца так у наступным навучальным годзе.

III З'езд Беларускага саюза выбраў Управу ў наступным складзе: Яўген Вапа (старшыня), Славамір Іванюк (намеснік старшыні), Ярыслаў Іванюк (сакратар), Юры Каліна (член), Алег Латышонак (член), Сяргей Лукашук (член), Юры Шульскі (скарбнік).

**Аляксандр Максімюк**

*Фота Ганны Кандрацюк*



*Госці З'езда: айцец Анатоль Конах і Дзмітрый Ціханюк.*

# Галіччына

Пры канцы лютага прыйшлося мне пабываць на поўдні Польшчы, у Кросненскім, Навасончаўскім і Кракаўскім ваяводствах. Тое, што кідаецца ў вочы зразу пасля прыезду на Падбяскіддзе — гэта свежа зааранны загоны. На ўзгор'ях, як толькі знікне снег, можна араць зямлю. Сеянне аўса ў першай палове сакавіка не з'яўляецца там нечым незвычайным. Другое, што кантрастуе з беластоцкім краявідам — гэта шыкарныя вясковыя дамы. У прыгнятаючай большасці ўсе яны двухпавярховыя і з белымі сценамі. Часта таксама выпучаюцца белізною гаспадарчыя будынкі, што асабліва можа здзівіць гасцей з паўночна-ўсходняй Польшчы, дзе на эстэтыку хлявоў ці пуняў ніхто асаблівай увагі не звяртае. Тамашняя сялянская панадворкі больш напамінаюць акружэнне падбеластоцкіх віл, чым якое-небудзь тутэйшае вясковае асяроддзе. Газоны і дэкаратыўныя дрэўцы там амаль такія самыя, як на прадмесцях Кросна, Ясла ці Тарнава.

Адкуль такое багацце на традыцыйна беднай Галіччыне? — такое пытанне мімавольна ціснулася ў галаву і прымушала пагаварыць з тузэмцамі. Аказваецца, што знакамітая большасць тамашніх гаспадароў гэта людзі маладыя, якія найчасцей у халасцяцкім стане пабывалі ў Амерыцы. Прывезеных адтуль грошай яны не інвеставалі ў гарадское будаўніцтва, а толькі ў бацькаўскую гаспадарку. Раней, як казалі тамашнія людзі, нават калі нехта меў грошы, цяжка было іх сэнсоўна выкарыстаць. Пры камуне купілі машыны і ўсё тэхнічнае абсталяванне для гаспадаркі. Пасля 1989 года можна было будаваць дамы па ўзору амерыканскіх фермераў ці гарадскіх тутэйшых багацеяў. Некаторыя інвеставалі ў гандаль і малыя фірмы паслугавага характару. Шматлюднасць падбяскідскіх вёсак дае шанц іх далейшага развіцця.

У адрозненні ад Беласточчыны, няма там зямлі, якая ляжала б аблогам. Бацькаўскую спадчыну найчасцей атрымлівае сын, які выяўляе гатоўнасць яе далейшага ўзбагачэння. Такая сітуацыя, як у нас на Беласточчыне, дзе на гаспадарцы астаецца чалавек, якому не пашанцавала ў горадзе, там не выступае. Няма таксама праблемаў са старакавалерствам на вёсцы. Прафесія земляроба не ўспрымаецца там як нешта горшае, паніжаючае чалавека, а наадварот, людзі ганарацца тым, што маюць зямлю і з працы на ёй атрымліваюць прыбытак, які дазваляе годна жыць селяніну і яго сям'і.

У краявідзе Падбяскіддзя прыцягвае ўвагу таксама архітэктура тамашніх касцёлаў. Шмат там храмаў, якіх архітэктурная фігура і некаторыя дэкаратыўныя элементы напамінаюць цэрквы. У сапраўднасці гэтыя касцёлы да 1946 года былі уніяцкімі цэрквамі. Пасля дэпартацыі ўкраінцаў драўляныя цэркаўкі з дапамогай людзей і часу найчасцей папалі ў руіну, мураваныя былі адаптаваныя на рымска-каталіцкія касцёлы. Будаваныя ў апошніх гадах касцёлы адзначаюцца тым, што іх архітэктура вельмі дакладна ўпісваецца ў прыроднае і будаўнічае акружэнне. Відаць, што таксі храм планаваўся як гарманічная частка тамашняга краявіду. Не сустракаецца там такой імперыяльнай касцельнай архітэктуры, якую бачым, напрыклад, у кожным квартале Беластока.

На тэрыторыі Галіччыны, а асабліва ў Кракаве, кідаецца ў вочы яшчэ адна адметнасць тае правінцыі: людзі, якія часта ўсміхаюцца, у якіх на твары відаць шмат аптымізму. Такога чагосьці не сустракаецца на вуліцах Беластока.

**Яўген Міранович**

# „Дзявочым ноткам” — 20

У суботу 1 сакавіка, у рамках Бельскіх артыстычных кліматаў, юбілей 20-годдзя адзначыў калектыў з Агульнаадукацыйнага ліцэя імя Браніслава Тарашкевіча — „Дзявочыя ноткі”. З гэтай нагоды калектыў у сённяшнім складзе даў канцэрт на сцэне Бельскага дома культуры. Сярод публікі былі не толькі сябры са школы і бацькі, але таксама дзяўчаты, якія пачыналі ў 1977 годзе ды іхнія зменшчыцы. Агулам, праз калектыў прайшло больш за пяцьдзесят асоб, многія з якіх з'явіліся на юбілеі.

— Калі я гляджу сёння на сцэну, — гаварыў падчас сустрэчы бурмістр Андрэй Сцепанюк, — то мне не верыцца, што гэтых дзяўчат дваццаць гадоў таму не было ўвогуле на свеце. Як і не верыцца, што тым, якія пачыналі, споўнілася ўжо дваццаць. Каб я не ведаў Сяргея Лукашука гэтых дваццаць гадоў, то не паверыў бы, што і яму ўжо столькі.

Бурмістр уручыў „Дзявочым ноткам”, іхняму нязменнаму апекуну Сяргею Лукашуку і дырэктару школы Зінаідзе Навіцкай гравіраваныя ў метале і апраўленыя ў дрэве дыпломы. Школьны самаўрад падараваў сімпатычныя пухнатыя зверыкі-талісманы. А консул Рэспублікі Беларусь у Беластоку Міхась Слямнёў прывёз спецыяльна ў Бельск карціну, якою ён ўзнагародзіў калектыў на Фестывалі беларускай песні.

Калі глянуць на апошнія дваццаць гадоў, дык мала было агляда беларускай песні, на якіх лаўрэатамі не сталі б „Дзявочыя ноткі”. Два апошнія гады запар паспяхова праходзілі яны элімінацыі на Агульнапольскі фестываль гарцэрскай песні ў Седльцах. Фармальна найбольшым дасягненнем было вылучэнне ў элімінацыях Фестывалю савецкай песні ў Інаўроцлаве ў 1983 годзе. Праспявалі яны тады „Ой хмель, мой хмялёк” і „Юрачку” і апынуліся ў запасе на выезд у Зялёну Гуру. Але дзяўчаты з таго слаўнага складу шчыра прызнаваліся за лямпкай шампанскага пасля канцэрта, што не заспявалі б так, як спявае сёння калектыў. Сяргей Лукашук таксама не можа нахваліцца цяперашніх „нотак”:

— Кожная змена ўносіла штосьці новае, сваё, але гэтыя дзяўчаты маюць выключна моцныя і зладжаныя галасы. Ну і спяваюць яны ўжо зусім інакш. Такая, я б сказаў, рэвалюцыя, адбылася некалькі гадоў таму і не заключаецца яна адно ў тым, што „Дзявочыя ноткі” не спяваюць народных, а толькі сучасныя песні. Памянялася рытміка і пастаноўка голасу, і ўвесь сцэнічны імідж калектыву.

На пацвярджэнне гэтага выкладчык музыкі ў Вышэйшай педагагічнай школе ў Ольштыне Янка Палавянюк — гарманіст „Юрачка” ў Інаўроцлаве — запрашаў дзяўчат працягваць навуку ў яго школе. Асабліва салістку Эмільку Астапчук. Але і ўсе астатнія маладыя спявачкі — Аліна Аўрамюк, Анэта Чыжэўская, Дарота Пашкоўская, Кася Анушко, Бася Козяк і Аня Чурак — вартыя пахвалы.

**М. В.**




*„Дзявочыя ноткі”, якія ездзілі ў Інаўроцлаў, з гарманістам „Юркам” — Янкам Палавянюком.* Фота з архіва Сяргея ЛУКАШУКА.




*„Дзявочыя ноткі” сёння.* Фота Анджэя КШЫЎЦА.

# Песні wolnych Białorusinów

[1 ☞ працяг]

ных меншасцей міністра ўнутраных спраў Лешка Мілера, які ад яго імені ўручыла віцэ-міністр Кацярына Пякарская „Дзявочым ноткам” з бельскага беларускага ліцэя.

Фестываль меў многа неспадзяваных матываў. Польскія палітыкі звярталіся да публікі як да свядомых, вольных беларусаў. Узамен сыпаліся бурныя апладысменты і падзякі. Прэм'ер Цімашэвіч узнагародзіў спявачку, якая ў дуэце з Евай Якубоўскай („Пронар”) праспявала песню Зянона Пазьняка „Ave Maria”. Праўда, пра аўтара песні не згадвалі, бо гэтая дэталь на беларускім фестывалі, дзе царствуе фальклор, зусім не прыдаецца.

Вялікім промахам арганізатараў лічу адсутнасць прывітання гасцей з Беларусі. Сярод іх быў згаданы ўжо міністр Аляксандр Білык, прадстаўнік „Радзімы” Уладзімір Мялешка. Беларускіх дыпламатаў у Польшчы прадставілі як спонсараў. На дадатак давялося мне глядзець, як ахова нахабна прывітала старшыню Згуртавання беларусаў свету „Бацькаўшчына” спадарыню Ганну Сурмач.

— Мы заўсёды запрашаем БГКТ на свае мерапрыемствы. Яны да нас прыязджаюць і ўсе лічаць іх дарагімі гасцямі, — сказала спадарыня Сурмач.

Новай з'явай было і тое, што на фестываль БГКТ прыйшлі не толькі сімпатыкі гэтай арганізацыі. Калі канферанс'е (вялі канцэрт бесканкурэнтная Валянціна Ласкевіч і саліст менскага калектыву „Свята” Вячаслаў Статкевіч) зганулі пра героя года, ззаду залы пачуўся голас бунту і вокліч „фальш”!

Намнога цікавей пісаць пра мастацкія дасягненні нашых самадзейнікаў. Узнагароджаныя выканаўчыя адзінкі (глядзі „Ніва” н-р 10) выступілі як заўсёды шыкарна і маляўніча. Яны несумненна ўзрадавалі тых, што прыйшлі паслухаць беларускія песні.

**Ганна Кандрацюк**

*Фота Сяргея Грынявіцкага*



*Арганізатары Фестывалю: Янка Сычэўскі („Чалавек года”) і Валянціна Ласкевіч.↓ Бліскуча выступіў віцэ-маршалак Сейма Аляксандр Малахоўскі.↓*



# Сустрэча з паэтэсай

Пятніца 14 лютага г.г. для арлянскіх вучняў аказалася святочнай, паколькі ў гэты дзень школу наведала паэтэса Надзея Артымовіч. Сустрэлася яна з настаўнікамі і вучнямі старэйшых класаў. З гэтай нагоды дзеці падрыхтавалі мастацкую частку з беларускіх песень і сваіх вершаў. Ствараць паэтычныя формы вучацца дзеці на ўроках беларускай мовы, якія вядзе настаўніца Анна Шыманская.

Госця станоўча ацаніла літаратурныя спробы арлянскіх школьнікаў і заахвочвала іх працягваць пісаць аб навакольным свеце, сваім доме, сваіх адчуваннях. Паэтэса з задавальненнем падкрэсліла, што яна ахвотна ўдзельнічае ў такіх сустрэчах. Ёй цікава ведаць, як моладзь успрымае яе творчасць, што думае пра яе вершы. Вучням у сваю чаргу прыемна было пачуць з вуснаў госці пахвалу за актыўны і паспяховы ўдзел арлянскіх дзетак у дэкламатарскіх конкурсах, на якіх яна часта засядае ў журы. Спадарыня Надзея Артымовіч такія сустрэчы лічыць мэтазгоднымі, паколькі дэкламатарскія конкурсы маюць за аснову літаратурныя — як паэтычныя, так і празаічныя — тэксты.

Дзеці распытвалі паэтэсу пра яе працу, пра творчы працэс і выдавецкія планы, пра пазалітаратурныя захапленні і атрымалі дэталёвыя адказы. Гадзінную сустрэчу перапыніў званок. Трэба спадзявацца, што Надзея Артымовіч яшчэ не раз наведае школу ў Орлі. Давайце любіць паэзію і кахаць паэтаў!

**Міхал Мінцэвіч**

# Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

## Багатая мінуўшчына Нарвы

Нарва — гэта самая блізкая мне мясціна. Тут знаёмыя мне вуліцы, людзі, тут жывуць мае сябры.

Мне было сорамна, калі ў час VIII Сустрэч „Зоркі" я зразумела, што вельмі мала ведаю пра Нарву. Якраз на Сустрэчах я многа даведалася пра мінулае свайго найбліжэйшага наваколля.

Вялікае ўражанне выклікала сустрэча са спадарыняй Евай Алімоўскай. Яна расказала пра даваенную Нарву. Найцікавейшыя былі звесткі пра жыдоў. На жаль, гісторыя гэтага народа трагічная. У Нарве, на месцы старога прадшколля, пры вуліцы Панятоўскага, знаходзілася гета. Усіх нарваўскіх жыдоў памардавалі фашысты. Тутэйшыя жыды выводзіліся з роду Веніяміна. Найбольш жыдоўскіх слядоў захавалася ў цэнтры старой Нарвы побач рынку. „Пажыдоўску", бо пры самай дарозе, пабудаваныя там драўляныя хаткі. Галоўная сінагога знаходзілася ў Заблудаве, у Нарве былі бажніцы. Пра адносіны хрысціян і жыдоў вельмі каларытна апавядае легенда пра адно каханне. У даваеннай Нарве жыла адукаваная, стройная дзяўчына, Галена Бялецкая. Яе першы муж, Ян Бялецкі, памёр неўзабаве пасля шлюбу. Аўдавелая жанчына вельмі моцна перажыла смерць любімага чалавека. Пасля хаўтур цэлую ноч правяла яна на магіле каханага. Аднак на гэтых могілках нешта здарылася. Калі „гукнула", Галена ўцякла дахаты. З тае пары яна ўжо не заходзіла на магілу мужа. Галена выйшла і другі раз замуж. Але і гэтае сужонства не было шчаслівае. Не было ў іх дзяцей. Людзі пачалі гаварыць, што Галена фліртуе з Хаімам, мясцовым маладзёнам, жыдам. Ён таксама спадабаў Галену. Але радня Хаіма забараняла хлопцу размаўляць з Галенай. Хутка яго ажанілі са старой жыдоўкай. Так сумна скончылася каханне Хаіма і Галены, жыхароў Нарвы.

Мяне ўразілі не толькі ўспаміны пра жыдоў. У 30-х гадах у Нарве знаходзіўся аддзел віленскага Беларускага інстытута гаспадаркі і культуры. У той час у Нарве адбываліся беларускія тэатральныя пастаноўкі.

У даваеннай Нарве было кіно. Знаходзілася яно на месцы, дзе цяпер стаіць банк. На пляцы, дзе была старая школа, у час вайны наладзілі палявы шпіталь. А на месцы, дзе зараз Нарваўскі асяродак культуры, быў дом для састарэлых. У Нарве панаваў звычай, што мясцовыя хлопцы і дзяўчаты жаніліся толькі са сваімі. Калі нехта адыходзіў ад гэтай схемы, лічыўся агань-баваным.

У Нарве пражывалі людзі многіх веравызнанняў. Апрача праваслаўных, католікаў жылі тут і баптысты, якія паявіліся тут у 1930 годзе. Людзі вельмі насцярожана прывіталі новых іншаверных. Разам са свята-ром сустрэлі іх з віламі.

Баптысцкі дом малітвы, збор, пабудавалі на руінах жыдоўскай школы. Зараз у Нарве пражываюць вернікі пяці веравызнанняў.

Вялікае значэнне мае Нарваўскі асяродак культуры. Ён адкрыты таксама для моладзі. Там адбываюцца мастацкія, тэатральныя, музычныя і кулінарныя заняткі. У час зімовых канікул нарваўская моладзь вывучала свае карані. Пад кірункам вопытнай апякункі яны рысавалі свае генеалагічныя дрэвы. Можна было пазнаёміцца з выстаўкай старых фатаграфій. На красавік плануецца паказ старых гаспадарчых прылад. Сярод атракцыёнаў трэба ўспомніць і кніжку Дароты Міхалюк пра гісторыю Нарвы.

Дзякуючы такім падзеям намнога лягчэй зразумець ролю і значэнне маёй мясціны. Людзі, якія не ведаюць гісторыі сваёй мясцовасці, усё зводзяць да вёскі. Для мяне Нарва гэта багатае традыцыямі мястэчка. І маю надзею, што неўзабаве зноў вернецца сюды гарадское права. Людзі пачнуць ганарыцца сваёй малой айчынай, Нарвай, бо з перспектывы гісторыі сапраўды відаць яе цікавую і багатую мінуўшчыну.

**Аня Садоўская,**
**VIII кл. ПШ у Нарве**



## Забытыя нарваўскія жыды

У час VIII Сустрэч „Зоркі", што праходзілі ў Нарве, адбылася экскурсія па наваколлі. Публіцыстычна-літаратурная група наведала многа цікавых месц.

Мы пабачылі між іншым жыдоўскія могілкі (на здымку). Выгляд гэтага месца і яго гісторыя зрабілі на мяне вялікае ўражанне.

Дарога вяла праз лес. Вельмі аднак здзівіў мяне непрыемны пах у ім. Зразумела я ўсё, калі даведалася, што побач знаходзіцца мясны камбінат „Рольмак".

Гэтае, што мы пабачылі, страшнае! Навокал параскіданы бутэлькі, бляшаныя банкі і паперы. Нехта побач могілак вызначыў сабе сметнік. І могілкі лепш не выглядаюць. Усё парасло зеллем. На могілках многа разбітых табліц.

Усе ведаем гісторыю жыдоўскага народа ў час II сусветнай вайны. Знаем, што з імі зрабілі гітлераўцы.

Аб гэтым красамоўна сведчыць факт, што да вайны жыдоў у Нарве было вельмі многа, а сёння няма ніводнага. Гэта застаўляе мяне задумацца: ці тыя, што знішчылі могілкі, капаючы іх і шукаючы золата, лепшыя ад фашыстаў?

Усе ведаем, што аб культуры народа сведчыць памяць аб памерлых. Веру, што знойдуцца культурныя людзі, якія ўшануюць памяць забытых жыдоў з Нарвы і наваколля. Добра было б прыбраць і абгарадзіць могілкі. Я сама ахвотна ўзяла б удзел у такой працы. А можа зробяць гэта вучні нарваўскай школы. Думаю, што памогуць ім і дарослыя.

**Жанэта Роля,**
**вуч. VI кл. бельскай „тройкі"**
*Фота Ганны КАНДРАЦЮК*

## Крыжаванка № 11

*(Даслала Кася ЛЕАНЮК, кл. 6 „ц" ПШ н-р 6 у Гайнаўцы.)*

Адгадайце ўсе словы, запішыце іх у клеткі і атрымаеце лозунг. Дашліце яго на працягу трох тыдняў у „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

какаду або арара

доўгая ў слана

качар з фільма „Мышка Мікі і яе сябры"

фруктовы лес

сторож курэй

этнаграфічны ў Студзіводах

чацвёрты месяц

сплецены з кветак

у сакавіку 1996 г. „Ніва" святкавала ... 40-годдзя

Адказ на крыжаванку н-р 7: **Тэатральны гурток.**

**Запісныя кніжкі** выйгралі: **Агнешка Івацік** з Карыцкі, **Мажэна Генішэўская** з Гарадка, **Моніка Раманюк** з Кнарыд, **Юстына Юрчук** са Снежак, **Марцін Мялешка** з Катоўкі, **Пятрусь Янкоўскі** з Бельска-Падляшскага, **Марцін Лукошык** з Гарадка і **Уля Алексяюк** з Кнарыд.

## Лічылкі

Раз, два, тры, чатыры,
Пяць, шэсць, сем, восем,
Выйшла баба з доўгім носам,
А за бабай сівы дзед,
Колькі дзеду табе лет?

* * *

Раз, два — рукава,
Тры, чатыры — нос ў чарніле,
Пяць, шэсць — кашу есць,
Сем, восем — сена косім,
Дзевяць, дзесяць — Мішу просім.

* * *

Раз, два — кружава,
Тры, чатыры — пачапілі,
Пяць, шэсць — кашу есць,
Сем, восем — сена косім,
Дзевяць, дзесяць — грошы весіць.
Грош згубілі, два знайшлі —
У карчму усе пайшлі:
Чай п'юць, кружкі б'юць,
На стол грошыкі кладуць.

# Запусты ў Ягуштове

28 лютага ў Ягуштове, што непадалёк Бельска-Падляшскага, адбылося цікавае мерапрыемства. Дарафей Фіёнік і айцец Яўген Хадакоўскі наладзілі для мясцовых школьнікаў Запусты. У пачатковай школе сабраліся не толькі маладыя паклоннікі тэатра і мясцовых традыцый, але і бацькі, настаўнікі, бабулі і дзядулі дзяцей.

Моладзь разам з Дарафеем Фіёнікам, Алегам Кабзаром, настаўніцай беларускай мовы матушкай Ірэнай Хадакоўскай і настаўніцай польскай мовы наладзілі тэатральную пастаноўку з трох п'ес. Пачалася яна ад этнаграфічнай п'есы „Клікание вясны". Тут трэба згануць пра цудоўнае сцэнічнае афармленне, дзе жыццярадасна красаваліся вясновыя матывы. Дзяўчаты і хлопцы падрыхтавалі сабе сцэнічныя, стылізаваныя на народную вопратку, касцюмы. Спантанная разнавіднасць добра спалучалася са зместам п'есы і агульным выглядам сцэны.

Вартыя ўвагі былі не толькі вясновыя гульні — абуджэнне мядзведзя, калядаванe з казой, але і аўтэнтычныя песні з Ягуштова (па-польску вёску гэтую называюць Аўгустова) і недалёкіх Студзіводаў. Такім чынам гледачы пабачылі і пачулі пераказ сапраўднай народнай творчасці. 300-гадовую песню „Зэлёная моя ты яблынько" запісаў інжынер Мікола Навіцкі ад 81-гадовай жыхаркі Ягуштова Еўдакіі Навіцкай.

Казкі „Мена" і „Хітры вол" (друкавалі мы іх у „Зорцы") былі таксама цікава пастаўлены. Па-першае — спадарожнічала ім адмысловае сцэнічнае афармленне і па-другое — акцёры карысталіся падляшскім дыялектам з Ягуштова.

Мне прыемна адзначыць, што ў пастаноўках было многа матываў з Сустрэч „Зоркі" ў Бандарах і Нарве.

Дырэктар школы, сп. Валянцін Гліва пахваліў маладых самадзейнікаў за арганізацыю культурнага мерапрыемства.

— Упершыню ў школе ладзім такога роду свята, — сказаў ён.

Супольная гульня дзяцей, бацькоў і настаўнікаў спрыяла непаўторнай атмасферы запустаў. Нястомныя мамы школьнікаў з Ягуштова нарыхтавалі багатае застолле. Айцец Яўген Хадакоўскі нездарма адзначыў, што тутэйшыя людзі вельмі многа ўвагі адводзяць сваім дзецям. Цяжка ўявіць такое мерапрыемства без іх заангажавання.

— А для царквы важнае, што моладзь свайго трымаецца, — сказаў святар. — Калі людзі адыдуць ад беларускай культуры, то ім не будзе шкада і сваёй рэлігіі. Культура і рэлігія ў беларускіх вёсках — неразлучныя з'явы.

Дырэктар школы, спадар Гліва верыць, што Ягуштова заўсёды будзе жывой вёскай. Зараз вучыцца тут 119 дзетак.

У наступным навучальным годзе прыйдзе 16 першакласнікаў. А калі будуць дзеткі і школа, будзе развівацца вёска. Напэўна дапаможа ў гэтым пашана родных традыцый. І цешыць, што школа адкрытая для мясцовых энтузіястаў роднай культуры.

**Ганна Кандрацюк**
*Фота аўтара*



*Вяснянкі ў выкананні ягуштоўскіх дзетак.*



*Пастаноўка казкі „Мена".*



*„Зэлёная моя ты яблынько".*

## Вершы Віктара Шведа

### Не пачуў?

Маці з абураным абліччам
Лае свайго сыночка Кольку:
— Многа разоў цябе я клічу
А ты цяпер прыходзіш толькі.

— Не мог пачуць цябе я мама,
Перашкаджалі мне ў тым дзеці.
І прызнаюся табе, прама,
Пачуў я толькі кліч твой трэці.

### Чырвоная Шапачка

Дачуся ўлюбёная
Звяртаецца да маці:
— У Шапачку Чырвоную
Хачу я забаўляцца.

— Дык забаўляйся, донечка,
Пакінь мяне ў спакоі.
— А я ж не маю, мамачка,
Кошычка з ядою.

### Лекар і пацыентка

Пакінула Міхаську мама ў хаце
Толькі з яго малой сястрою Нінкай.
Гульню сястрыцы прапануе брацік
У лекара і хворую дзяўчынку.

— А пацыентцы трэба заўжды вохкаць, —
Міхаська-лекар сястру павучае. —
Ты маеш запаленне лёгкіх,
Пажарную каманду выклікаю.




*Малюнак паводле казкі „Бяроза" („Зорка" № 7) намалявала Анеля БОБЕР, вучаніца III кл. ПШ у Орлі.*

# Як вясну гукалі

Жыў-быў на свеце пан Год. Было ў яго чатыры дачкі: Зіма, Вясна, Лета, Восень. Старэйшую дачку звалі Зіма, у яе быў люты характар. Ох і любіла яна траскучыя маразы, скрыпучы снег і злую завіруху!

І вось аднойчы здарылася такая гісторыя.

Адбыла Зіма свой час. Выйшлі людцы Вясну гукаць-заклікаць. А зіма ім і кажа: „Колькі ні гукайце, ні клічце — не прыйдзе Вясна. Мая памочніца Завіруха схавала ключы ад каморы, дзе Вясна адпачывае, далёка на поўначы. І цяпер ніколі не прыйдуць ні Вясна, ні Лета, ні Восень".

Пачалі людцы прасіць, угаворваюць Зіму, каб дапамагла вызваліць Вясну-красну. Але Зіма не згаджалася. Яшчэ больш раззлавалася: пачала сыпаць снегам, наслала холаду. Пачалі людзі думаць, як Вясну вызваліць, бо Зіма надта ж надакучыла, увесь хлеб пераела. Паклікалі яны сыноў Вясны. Прыйшлі Сакавік, Красавік і Май. Расказалі ім людзі пра сваю бяду. „Добра, — кажа старэйшы сын Вясны. — Я пайду змагацца з Завірухаю". Прайшоў тыдзень, другі, трэці, а Сакавіка няма. Вырашылі малодшыя браты ісці на дапамогу. Прыйшлі на поўнач, а там Завіруха лютуе, не дае падысці да яе логава.

Звярнуліся браты за дапамогай да пана Года. Схапіў пан Год Завіруху за яе снежнае пакрывала. А Красавік з Маем тым часам вывелі з-пад снегу кветкі першацвету, якія мелі форму ключыкаў, падышлі да каморы і выпусцілі Вясну з Сакавіком. Сустрэлі іх людзі з радасцю і песнямі. А Зіму зачынілі ў яе логаве.

**Аляксей Маліноўскі,**
**VII кл., Віцебшчына**
*(Са зборніка „Казкі дзяцей Беларусі")*

Трыумфальнае шэсце найменшых

# Вяселле яшчэ будзе!

Якімі ж гучнымі словамі гаворым мы няраз пра свой патрыятызм, з фанабэрыяй спаглядаючы на больш маўклівых! Рытарычнымі фразамі пішам пра сваю місію. А ўсё, аказваецца, такое простае. **Дастаткова навучыць быць беларусам сваё дзіця.**

Група свядомых беластоцкіх беларусаў прыйшла да вываду, што найлягчэй усё ж выхоўваць дзіця ў грамадзе, і прабіла справу беларускага прадшколля ў Беластоку. Бо найлягчэй сфармаваць свядомасць дзіцяці да ўзросту 5-6 гадоў. Тое, што зробіцца да гэтага часу, застанецца ў яго псіхіцы на ўсё жыццё.

**Барбара Пякарская, старшыня бацькоўскага камітэта беларускага прадшколля, лекар:**

— Думку, што можна рабіць з дзецьмі беларускія абрадныя сцэнкі, бо ёсць такая форма працы, падала нам Дарота Місеюк з філіі Варшаўскага універсітэта. Мне ідэя вельмі спадабалася і я запрапанавала гэта іншым бацькам. Яны мелі б выступіць на сцэне разам са сваімі малюткамі ва ўзросце 3—6 гадоў.

Спачатку бацькі аднесліся скептычна да гэтай прапановы. Як гэта, сказалі яны, будзем выдурняцца на сцэне разам з дзецьмі?..

Можна было іх зразумець. Ніхто ж дагэтуль не быў акцёрам і апанаваў іх, бадай, страх перад выхадам на сцэну. А пасля высветлілася, што гэта цудоўная гульня! І яшчэ зразумелі яны, што найлягчэй вучыць дзяцей падчас гульняў, забаваў, а пры гэтым многаму вучацца таксама бацькі.

Перад кожнай „прэм'ерай" большменш на працягу месяца два разы ў тыдзень адбываліся ў прадшколлі рэпетыцыі. Калі бацькі прыходзілі па дзяцей, тады заставаліся „акцёры" і рэпеціраваліся разам з бацькамі. Спявалі з імі свае родныя песні, рабілі „прадстаўленне".

Першы раз выступілі ў мінулым годзе з абраднай сцэнкай, звязанай з Раждджаством і Калядамі, у святліцы царквы св. Мікалая. На другі раз быў Юр'еўскі карагод, абрад, звязаны з порамі года, калі па Вялікадні мы хвалім адроджаную прыроду. Гэта выступленне адбылося ў прадшколлі.



*„Зборная субота настала, дружкі я пазбірала..."*

Ну, і вось цяпер, 2 сакавіка 1997 года, адбылося трэцяе публічнае выступленне прадшкольнікаў — у клубе Ваяводскага асяродка анімацыі культуры, а гасцей было не злічыць! Пані **Барбара Пахольская, віцэ-дырэктар ВААКа**, так і сказала: „Ну, для такой імпрэзы дзверы Ваяводскага дома культуры заўсёды адчынены!" А **дырэктар Аддзела культуры Ваяводскай управы Казімеж Дэркоўскі** запрасіў на выступленне прадшкольнікаў нават дэлегацыю работнікаў культуры з Гародні з дзевяці асоб. **Беларускі консул Міхась Слямнёў** прыйшоў з госцячым у Беластоку **Аляксандрам Білыкам, старшынёю Дзяржкамітэта па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь.**

Бацькам хацелася, каб усё адбывалася, як у дарослых. На гэты раз вырашылі паказаць дзве сцэнкі з вясельнай абраднасці: пячэнне каравая і дзявочы вечар. Няхай шкадуе той, хто не быў! Дзеткі аказаліся найдасканальшымі акцёрамі. Асабліва — наймалодшыя, якія яшчэ акцёрскага хвалявання не перажываюць. Трэба было бачыць, як завіхаліся яны пры пячэнні каравая, як рыхтавалі „маладуху" да шлюбу. З якой павагай расчэсвала Оля Більмін „маладой" (Оля Максімюк) валасы! А ўсё перапляталася рэгіянальнымі абраднымі песнямі, якія дзеці спявалі разам з бацькамі. А прытупвалі пры гэтым, круціліся, прытанцоўвалі... Асабліва вылучаліся свабодай рухаў на сцэне трохгадовая Ганулька Пякарская, шасцігадовая Волечка Максімюк, а чатырохгадовая Наталька Кандрацюк дык пераўзышла сама сябе — не магла ўстаяць на месцы, аж карцела ёй пакручваць маленькім задзікам, выгінацца ўсім целкам.

Вядома, дзеткам на сцэне было значна спакайней і больш надзейна, калі побач з імі на сцэне выступалі бацькі: Барбара Пякарская, Ганна



*„Ажаніце гультая, няхай не брыкае..."*

Кандрацюк, Аляксандр Максімюк, Пятро Юшчук (яго малая захварэла якраз), Надзя Хмялеўская, Аліна Стшэльчык, Анна Бобік, Рэната Більмін, Крыся Яканюк, Ірэна Стэльмашук, Эва і Яраслаў Франкоўскія (хаця іх дзіця яшчэ толькі збіраецца ў прадшколле), а таксама настаўніцы Альжбета Бурачэўская і Яўгенія Пятрышык, якая была і рэжысёрам гэтай пастаноўкі (па сцэнарыю Ганны Кандрацюк і Аляксандра Максімюка). Праўда, дзіця Гені ўжо пайшло ў школу, але хадзіла ў беларускае прадшколле, і яна, настаўніца Падставовай школы н-р 12, не адарвалася ад грамадскай працы для малых беларусаў.

Мушу прызнацца, што такога каляровага выступлення ў беларускім мастацкім руху Беласточчыны я яшчэ не бачыла. На гэты раз трох—шасцігадовыя дзеткі паказалі нам традыцыйную суботу перад вяселлем, калі малады прыязджае выкупіць рубашку і калі дахаты да маладой прыходзяць жанчыны, каб дапамагчы спячы каравай і падрыхтаваць усё на вяселле.

Але хвілінку, бацькі і аўтары сцэнарыяў папярэджваюць нас, што гэта не канец: **вяселле яшчэ будзе!**

Ну, дык чакаем „вяселля".

**Ада Чачуга**

*Фота аўтара*

# Доказ нашаму тут знаходжанню

У палове мінаючай ўжо зімы выйшла з друку кніжка інж. Барыслава Рудкоўскага „Топография дорог и памятников". Напісана яна на расейскай мове, а выдала яе тыражом 1 100 экземпляраў Брацтва праваслаўнай моладзі з Бельска-Падляшскага. Рэдактарам і адначасова спонсарам выдання з'яўляецца Валянцін Гушч (на пятай старонцы працы змешчаны яго вялікі здымак).

Асноўны змест кніжкі папярэджвае благаслаўленне бельскага благачыннага а. Георгія Такарэўскага. Далей аўтар працы дае кароткі ўступ, затым такую ж самую характарыстыку фізічнай геаграфіі і даследаванай ім тэрыторыі (у асноўным Бельшчыны). Чытач знойдзе таксама кароткае, але не шаблоннае апісанне такіх геалагічных аб'ектаў як дарога і рака. Некаторыя акрэсленні (напр. „камень — сімвал вечнасці") гучаць амаль як строфы паэтычных твораў.

Першая асноўная частка працы мае характар энцыклапедычнага даведніка. Інжынер коратка апісвае ў ёй праваслаўныя сакральныя аб'екты, прычым да кожнага з іх дабаўляе ягонае графічнае выяўленне і тапаграфічны план. Такія нарысы атрымалі цэрквы ў Бельску-Падляшскім (5), Ягуштове, Рыбалах (2), Шчытах-Дзенцялове, Гайнаўцы, Грыневічах-Вялікіх, Стрыках, Суражы, Вэрстоку, Райску, Пасынках, Падбеллі, Кляшчэлях, Боцьках, Андрыянках і Пяценцы, затым капліцы ў Бельску-Падляшскім (2), Сямятычах, Кленіках, у даліне ракі Арлянка, у лесе „на Боровісках", у Парцаве, Паўлах, Войшках і Кнарыдах (2).

У кніжцы знойдзем таксама звесткі, узбагачаныя малюнкамі, пра цікавейшыя на апісваемай тэрыторыі надмагільныя помнікі, перш за ўсё каменныя. Яны знаходзяцца ў Праневічах, Ягуштове, Крывой (урочышча „Сэрэдні Курчы"), Вэрстоку, Гацьках, Зубачах, Гайнаўцы, Кляшчэлях і Бельску-Падляшскім.

Шмат месца адвёў аўтар Гацькам. Апісвае ён гарадзішча „Замок", дае яго карту (з наваколлем), паказвае глебавы профіль, апісвае курган (ёсць і план даезду да яго), нарэшце чытач пазнаёміцца з характарыстыкай камы.

У кніжцы апісваюцца таксама дзве іншыя камы — „Чэрнякова Гара", што ля Праневіч, і „Вышка" ля Катлоў. Знойдзем і апісанні гарадзішча „Замкавая гара" ў Бельску-Падляшскім. У гэтым жа горадзе сп. Рудкоўскі палічыў вартымі ўвагі таксама каменныя формы ля моста на рацэ Белай, расліннасць той жа самай ракі і не існуючую ўжо групу ясакараў на Галавеску. Далей, натрапім на апісанне і малюнкі расліннасці ля ручайка Смуга, краявіду з могільнікам ля Праневіч ці палявой павеці на сена непадалёку Відава. І яшчэ адна, зусім арыгінальная цікавінка — выпадак акамянення чалавечага цела з XIII ст., узбагачана апісаннем працэсу акамянення.

У другой частцы працы знойдзем 14 картаў розных раёнаў Бельскай зямлі, на якіх аўтар змясціў арыгінальныя назвы дарог, мастоў, урочышчаў і рэк. Карту наваколля вёсак Піліпкі і Трашчоткі ўзбагаціў ён графікай жалезнага крыжа на гранітным п'едэстале, пастаўленага ў памяць памерлых ад чумы і халеры ў 1657 г., а карту наваколля вёскі Вэрсток — графікай царквы і крыжа з 1881 г. Пятнаццатая, змешчаная ў кніжцы карта, прадстаўляе тапаграфію дарог г.зв. Западнага краю з канца XIX ст.

У кніжцы даюцца таксама тлумачэнні ўзнікнення некаторых назваў, параўноўваюцца арыгінальныя геаграфічныя назвы, прыводзяцца цікавінкі з гісторыі м.інш. Мельніцкага шляху ці моста на чыгуначным шляху Чаромха—Бельск, ля вёскі Грэдалі. Тут жа змешчана бібліяграфія важнейшых (надрукаваных і машынапісных прац) Б. Рудкоўскага. Нарэшце інжынер называе прозвішчы людзей, якія памагалі яму пасрэдна і непасрэдна ў правядзенні геадэзічных прац, збіранні матэрыялаў для дакументацыі і т.п. Даведваемся таксама, што за сваю дзейнасць у геадэзіі і па ахове помнікаў Б. Рудкоўскі атрымаў у 1987 г. залаты медаль, а за тапаграфічную апрацоўку сакральных аб'ектаў яго ўзнагародзілі ў 1992 г. ордэнам св. Марыі Магдаліны II ступені.

У кніжцы чытач натрапіць і на асаблівы раздзел — „Pro memoria анімалістам", у якім аўтар успамінае зверствы камуністаў на Украіне ў трыццатыя гады.

Навейшая праца Б. Рудкоўскага выдадзена старанна, на добрай паперы, у цвёрдых вокладках. Яе змест (81 старонак) павінен зацікавіць перш за ўсё праваслаўных жыхароў Бельшчыны і наваколных земель. Ён даказвае знаходжанне тут нашага народу з даўніх часоў. Кніжка з'яўляецца таксама своеасаблівай дакументацыяй жыцця і дзейнасці нашых продкаў. Яе вартасць безумоўна будзе ўзрастаць з цягам гадоў.

**Пётр Байко**

# Календары, календары...

## або Беларусь як рыба ў цесце

Каб упэўніцца, заглядаю ў „Тлумачальны слоўнік беларускай мовы" (т. 2, Мінск 1978, с. 596). Там чытаю, што каляндар — гэта „даведачнае выданне ў выглядзе кнігі, брашуры ці асобных лістоў друкаванага матэрыялу, якое змяшчае паслядоўны пералік дзён, тыдняў і месяцаў года з абазначэннем памятных і святочных дат, звычайна з тэкстам".

Пасля рэцэнзіі бэгэкатоўскага календара ў „Ніве" (№ 8 ад 23 лютага г.г.), узяла я ў рукі ўсе беларускія календары на гэты год, якія маю ў хаце. Неяк перад Новым годам атрымала я ад генеральнага консула Рэспублікі Беларусь у Гданьску Анатоля Бутэвіча адрыўны каляндар на 1997 г. „Родны край", выдадзены ў Мінску, „Ніва" таксама свой надрукавала і „Czasopis" таксама. Ёсць куды паглядзець, у які дзень выпадаюць святы, вось напрыклад Вялікдзень, „польскі" ці „наш".

Календары „Нівы", „Czasopisa" падаюць царкоўныя, каталіцкія, польскія дзяржаўныя святы. Можам, напрыклад, даведацца, калі Польшча святкуе Święto Niepodległości ці Konstytucji 3 Maja — хаця гэтага апошняга чамусьці „Czasopis" не адзначыў. З календара „Нівы" можна даведацца пра такія сучасныя святы, як Walentynki, Dzień Babci, Dzień Dziadka, Dzień Ojca.

Трэба дадаць, што каляндар „Нівы" называецца „беларускім". На жаль, дарма ў ім шукаць такіх беларускіх святаў, пра якія, дарэчы, рэдакцыя „Нівы" памятае, як 25 сакавіка (абвяшчэнне БНР), ці 27 лістапада (слуцкі ўзброены чын). Здаецца, што такімі памятнымі датамі маглі б быць 26 красавіка (хаця б дзеля перасцярогі) — чарнобыльская катастрофа, 8 верасня — свята беларускай вайсковай славы з нагоды бітвы пад Оршай у 1514 г. Як тут нармальныя людзі могуць ведаць пра такія вось святы, калі яны не пазначаныя ў нашых беларускіх календарах? Калі адсвяткаваць Каляды ці Вялікдзень для большасці вядома, а калі не — зірнуў сабе ў каляндар і ўжо ведаеш. Добра было б, каб урэшце беларускія нацыянальныя святы ўвайшлі ў нашы календары ў Польшчы.

Зазіраю ў выдадзены ў Менску „Родны край" — тое ж самае. Ні слоўцам не ўпамінаецца пра гістарычныя святы. Вось, напрыклад, 25 сакавіка. Пад гэтай датай значыцца рэцэпт на рыбу ў цесце: „Насыпце муку ў міску і, памешваючы, дабаўце цёплае малако, негарачае растопленае масла, яечны жаўткі і соль". Гэты рэцэпт выразна даказвае, што 25 сакавіка жанчына павінна заняцца кухняй, а не нейкімі нацыяналістычнымі дэманстрацыямі. 26 красавіка ўпамінаецца як „дзень чарнобыльскай трагедыі". Дзень грунвальдскай бітвы (15 ліпеня) таксама не адзначаны. Пра бітву пад Оршай (8 верасня 1514 г.) таксама нічога не знойдзем у гэтым календары. Як быццам на злосць тым вайскоўцам, якія ў гэты дзень і так прысягаюць на вернасць Беларусі, пад гэтай датай змешчаны кароткі жыццяпіс спевака Ісідара Балоціна, які „дбаў аб тым, каб зрабіць мастацтва больш зразумелым і блізкім народу, і ўдзячны народ захаваў добрую памяць аб спеваку". Дарма таксама пад датай 27 лістапада, у дзень герояў, шукаць звестак пра слуцкі ўзброены чын. Можна затое даведацца пра загадкавы Стоўнхендж у Вялікабрытаніі. Адным словам: паглыбляй свае веды, бо Стоўнхендж мае каляндарнае і рытуальнае значэнне.

Якія ж тады дзяржаўныя святы адзначае незалежная Рэспубліка Беларусь, калі адраклася ад тых датаў, якія запісаныя ў гісторыі змаганнем за яе незалежнасць? „Разве могут быть два сорта независимости?" Аказваецца, што так. Цікава калі беларусы будуць святкаваць дзень незалежнасці? У календары яшчэ пазначаны 27 ліпеня, але ж А. Лукашэнка знёс яго і ўстанавіў 3 ліпеня — дзень вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Вось тут і святкуй. Чырвоная картка таксама і 7 лістапада — дзень кастрычніцкай рэвалюцыі. Таксама надалей святкуецца дзень савецкай арміі (23 лютага), як дзень абаронцаў айчыны і ўзброеных сіл Рэспублікі Беларусь.

Вялікае свята гэта Дзень жанчын — у календары чырвоная картка. Такая самая — дзень канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, у гонар той жа з 1994 г. Але ж яно няважнае, бо гэтая канстытуцыя страціла законную сілу пасля лістападаўскага рэферэндуму.

1 мая — Свята працы... Калі сярэдні беларус зірне ў які-небудзь з гэтых календароў, мае права здзіўляцца, што зноў выдумваюць гэтыя паганыя нацыяналісты. У календарах жа няма ніякіх такіх святаў.

І тут папаўся мне маленькі каляндарык, выдадзены газетай „Беларускі калекцыянер", дзе пазначаны святы, якія кожны беларус павінен калі не святкаваць, дык прынамсі пра іх ведаць.

Пасля агляду сучасных беларускіх календароў робіцца сумна, калі прыгадаем пра беларускія календары ў міжваеннай Польшчы. А, здаецца, мы ўсё больш адукаваныя і не ў цемнаце раслі. Таму менавіта напярэдадні 25 сакавіка варта ўчытацца ў нашы сучасныя календары, каб многае ў сённяшнім „состоянии" беларусаў зразумець!

**25.03**–Дзень Незалежнасьці БНР-1918г. • **26.04**–Дзень Смутку (Чарнобыльская катастрофа-1986г.) • **23.06**–Купальле. • **15.07**–Дзень Грунвальдскай бітвы-1410г. • **8.09**–Дзень беларускай вайсковай славы (бітва пад Воршай-1514г.) • **2.11**–Дзяды. • **27.11**–Дзень Герояў (Слуцкі збройны чын-1920г.).

**Выданьне газеты "Беларускі калекцыянер".**

*Фрагмент каляндарыка газеты „Беларускі калекцыянер".*

**Лена Глагоўская**

# Аб'ехалі, пагглядзелі і падсумавалі

У глыбокую восень 1996 года Гмінная рада Гайнаўкі сваё пасяджэнне закончыла паездкай па вёсках. Наведалі мы паўночную частку гміны. Дзень выпаў пахмурны з пераліўным даждком. Ездзіла з намі пані войт Вольга Рыгаровіч і сакратар Мікалай Кандрацюк. Падарожнічалі мы на гмінных пасажырскіх „Жуках". Гміна мае іх два на свае патрэбы. А патрэб і абавязкаў гміна мае па горла. Вось так еду разам з войтам і думаю: „Жанчына як жанчына. Мноства такіх сустракаем на нашых вуліцах. Аднак яна не такая як усе. Адкуль у яе столькі энергіі і ахвоты да працы, цяжка зразумець. Праўду кажуць, што жанчыну цяжка зразумець і адкрыць да канца. (Нездарма яна і з чортам справілася.) А да нашай войт цяжка і мужчын зраўняць. Такіх толькі адзінкі трапляюцца ў народзе. І дзякуй Богу, што яна да нас трапіла".

Ад прыходу Вольгі Рыгаровіч наша гміна пачала жыць і развівацца. Усё змянілася. Паспяваем ісці з часам. І калі далей так будзе, не адстанем у ніводнай галіне гаспадаркі. А ведаеце, гміна сельскагаспадарчая. Аднак дасягненняў нашых не адны нам пазайздросцяць. Шмат чаго зроблена. Вада ўжо амаль да кожнай вёсачкі дайшла, а таксама да паасобных хатаў і на хутары. Не, не з веснавога разводдзя, а толькі бягучая, у кранах.

Пачалі мы паездку ад Пуціскаў, каля Гайнаўкі. Вёсачка невялічкая, задбаная. Прыгожыя дамы, такія ж агароджы і чысціня. З Пуціскаў едзем у Чыжыкі. Дарога асфальтаваная. Паабапал дарогі зааранымя на зіму палі. У канцы Чыжыкаў накіраваліся мы ў Новаберазова. Спалучае гэтыя вёскі жвіровая дарога.

— Нямала тут укладзена працы, — кажа войт. — Даўней цяжка было праехаць. А цяпер — хоць качайся.

Напрыканцы вёскі Новаберазова, каля каплічкі, паварочваем на поўнач, у напрамку Навакорніна. Едзем па новенькай асфальтаванай дарозе. Мінаючы Навакорнін, з правай стараны красуецца прыгожы, нядаўна здадзены ў карыстанне будынак школы. Гэта школа на меру сучасных патрэб. Пакідаем Навакорнін і едзем у вёску Трывежа па брукаванай дарозе. З'ехалі як бы ў другі свет. Здаецца, самаход не мінае аніводнай калдобіны. Аж цяжка гаварыць, каб толькі языка не прыкусіць.

— Да лепшага ўсе хутка прывыкаюць, — кажа спадарыня войт. — Паглядзіце, гэта далейшая наша праца.

Уязджаем у Трывежу. Вёсачка невялічкая, вуліца асфальтаваная. На сярэдзіне вёскі красуецца прыгожы вясковы клуб, здадзены ў карыстанне ў 1996 годзе. Солтыс вёскі, адначасна радны, адкрывае клуб. На галоўным месцы красуецца праваслаўная ікона. Гэта ж нашы беларускія вёскі; тут амаль усе праваслаўныя.

Пакідаем Трывежу і едзем у Рэпіскі. На момант мільганула крама ў Трывежы з плачучай вярбой, аб якой спявае жыхар гэтай вёскі Мікалай Пракапюк. Падаемся далей на поўнач, у напрамку Ласінкі. Толькі тут ужо другі краявід, больш узгоркаў і далін. Стары, знішчаны брук, да таго ж вузенькі. Вядома, даўней шырокія дарогі былі непатрэбныя. Самаходаў не было, а конікам можна было праехаць. Пра камбайны і ў казках тады не гаварылася. Цяпер радныя гэтых мясцін і тут хочуць нешта зрабіць. Аднак войт не кажа што не! Толькі трэба пачакаць. І частка дарогі з Трывежы ў Ласінку належыць да гміны Нарва.

— Мы свой адрэзак дарогі калісьці зробім, — разважае ўголас войт.

Паварочваем у вёску Рэпіскі. Тут таксама нямала зрабілі — праклалі асфальт, водаправод, адрамантавалі святліцу. Толькі жыхары не прывыклі да новага жыцця і таму на абочыне пустазелле расце. Думаю, у будучыні яны на такое не дазволяць.

З Рэпіскаў едзем у Васількова, сваё, каля Гайнаўкі. Тут мы астанавіліся надаўжэй. І надвор'е стала нам спрыяць. Праяснілася на момант. У Васількове палажылі асфальт з новых, таннейшых кампанентаў. Аднак, відаць, не ўсюды ён прыдатны і пад вялікімі машынамі будзе трэскацца. Аднак у гэтай невялічкай вёсцы будзе ён трывалым. І тут як бы вёска ажыла. Сяляне пачалі ставіць прыгожую агароджу, у дамы паплыла вада.

З Васількова едзем у Дубіны. У вёску ўязджаем каля царквы і паварочваем на поўнач у напрамку Навасадаў. Астанавіліся мы каля мясцовага могільніка.

— Вось тут, — паказвае войт, — мелі будаваць школу для Дубін. Школу на патрэбы дваццаць першага века. З праўдзівага здарэння. Толькі што паміж могільнікам і вёскаю месца малавата. А яшчэ на гэтай пляцоўцы бізнесмен паявіўся. Паставіў некалькі будынкаў і прыцых. Кажуць, макароны меў прадукаваць. А можа рэцэпт згубіў? І людзі некаторыя бунтуюцца. Гавораць, могільнік заблізка. Спакою не будзе. Не ведаю толькі, каму? Адступілі ад гэтага плана, — кажа войт. — Аднак школу пабудуем. Купім месца з другой стараны, бліжэй вёскі Навасады. Тут закрасуецца школа, — паказвае рукой войт на месца, дзе расце прыгожае, зялёнае жыта.

Пакідаем гэтае месца і мары аб новай школе і едзем у Навасады. Там на паварооце стаіць стары аблезлы вясковы клуб. Сваім выглядам псуе ён настрой жыхарам і выгляд наваколля. Патрэбны рамонт, але каштаваць ён будзе даражэй, чым пабудова новага. Такім чынам у Навасадах будаваць трэба клуб, і то ў хуткім часе.

Надыходзіць вечар. Пара канчаць паездку. Даволі планаваць і аглядаць тое, што зрабілі. Аднак па дарозе, едучы назад у Гайнаўку, заглянем у Пасталова. У 1996 годзе з Дубін у Пасталова палажылі асфальт і водапровод. Вёска змянілася.

Жыццё патрабуе новых выгад, а гміна стараецца заспакоіць сваіх жыхароў. І да гэтага часу нам удаецца. Наведалі мы вёскі, у якіх штосьці важнае робіцца. Не гавару аб палявых дарогах, аб якіх гмінны самаўрад не забывае. Кожны год прызначае немалую суму на гэту мэту. За дзень усяго не аб'едзеш і не агледзіш. А паглядзець ёсць што. Відаць, гмінны самаўрад не бяздзейнічае, а ўсё гэта залежыць ад галавы гміннай управы — нашай спадарыні войт.

**Грыша Мароз**

# Быў у Орлі свой аркестр

**Маладому і сярэдняму пакаленням сапраўдны вобраз даваеннай Орлі, пры санацыі, вядомы толькі з расказаў дзядоў і бацькоў. Але сёння яшчэ не ўсе ўсведамляюць, што шмат гадоў існаваў і дзейнічаў у мястэчку пажарны духавы аркестр. Вайна спыніла гэту прыгожую традыцыю. Засталіся адно пажоўклыя фатаграфіі і ўспаміны Аляксандра Карнеева, Міхала Шыманскага і Аляксандра Кубаеўскага — удзельнікаў аркестра.**

Успамінае **Аляксандр КАРНЕЕЎ**, 86-гадовы пенсіянер:

— У Орлі добраахвотная пажарная каманда паўстала ў 1922 годзе, а першым яе камендантам быў Фама Нестаровіч. Пасля пажарнікаў узначальвалі сын яўрэя Вайштына, затым кіраўнік школы Дэмбіцкі, Мікалай Хурса. Неўзабаве быў заснаваны пажарны духавы аркестр, якога членам стаў я ў 1930 годзе, калі мне споўнілася 20 гадоў. Найперш аб прыёме вырашаў лекар, які дакладна абследаваў лёгкія, каб даведацца, ці хопіць мне сілы дзьмуць у карнет. Адначасна стаў я пажарнікам. У аркестры гралі арлянскія яўрэі — мясцовыя рамеснікі.

Вучыў нас і дырыжыраваў аркестрам настаўнік Уладзіслаў Акушка (Okuszko), які быў родам з Бельска. Разам з намі граў кіраўнік школы Дэмбіцкі, які нейкі час быў камендантам пажарнай каманды. Як кожны сур'ёзны аркестр, мелі мы свой пастаянны рэпертуар, які прэзентавалі публіцы на розных урачыстасцях і вечарынках. Вельмі часта гралі мы на яўрэйскіх вяселлях — пад гукі марша праводзілі маладую пару і вясельны карагод, а потым гралі на танцах, найчасцей у будынку яўрэя Вадзілоўскага, дзе была сцэна. У гэтым самым будынку (па сённяшняй вул. Бельскай) Вадзілоўскі трымаў краму. За вясельным сталом яўрэі гарэлкі амаль не пілі. Выпівалі сама больш па паўкілішка, а на ўсё вяселле хапала ім паўлітра гарэлкі. Нам, музыкантам, апрача грошай давалі выпіць (2 літры на 12 чалавек) і добра закусіць (тушанае гусінае мяса і т.п.). У той час нельга было выконваць румбу. Наш рэпертуар складалі маршы, танга, полькі, вальсы...



*Аляксандр Карнееў з гістарычным здымкам.*



*Здымак пажарнага духавога аркестра ў Орлі зрабіў у 1930 годзе фатограф з Браньска. Стаяць (злева): Ершуль Мікляцкі, Аляксандр Карнееў, Аляксандр Ярымовіч, Зейтко Фельрэгер, Канстанцін Мураўскі і Міхал Альшэўскі. Сядзяць (злева): Аляксандр Мартыновіч, Мечыслаў Радзеванюк, Уладзіслаў Акушка, кіраўнік школы Дэмбіцкі, Шэйкін Тапалянскі і Менахем Цымбал.*

У трыццатых гадах арганізавалася ў нас Камуністычная партыя Заходняй Беларусі. Яе членамі сталі некаторыя нашы музыканты, якіх неўзабаве ў аркестры не стала. Прычыніўся да гэтага правакатар з Гусакоў, які пранікнуў у ячэйку, быў на падпольным сходзе ва ўрочышчы „Бор" і ўсіх выдаў паліцыі. Палалі яны ў турму. А калі некалькі яўрэяў выехалі з Орлі, аркестр прарэдзіўся.

Дырыгенту Акушку прыйшлося заняцца папаўненнем. У выніку палову аркестра складалі старэйшыя вучні мясцовай школы. У 1935 годзе ў аркестры гралі сем яўрэяў: Мейер Тафілоўскі, Шэйкін Тапалянскі, Мейер Мікляцкі, Вернік, Шмаглер, Грыбіцкі і Бертман. Сярод хрысціянскіх музыкаў былі, між іншым, Уладзіслаў Акушка, Аляксандр Ярымовіч, Міхал Шыманскі, Аляксандр Кубаеўскі.

За сінагогай, там дзе сёння знаходзіцца пункт скупкі малака, была яўрэйская лазня. Калі ў 1939 годзе прыйшлі саветы, тады савецкі кіраўнік кафлянага завода Лейкін загадаў разабраць лазню і некаторае паравое абсталяванне ўстанавіць у кафлярні. Той жа Лейкін забраў таксама да сябе наш духавы аркестр і мы два гады ігралі па ягонаму загаду.

У 1941 годзе нямецкі камісар Сандэцкі паклікаў усіх пажарнікаў у гміну, а потым загадаў пайсці ў кафлярню, узяць па адной савецкай шынелі, неадкладна перафарбаваць іх у фарбавальні і пашыць сабе мундзіры. Такім чынам арлянскія пажарнікі атрымалі аднолькавую форму. Мне доўга не прыйшлося быць у Орлі. Неўзабаве мяне і двух яўрэяў, варшавяка Кубмана і Ратавіцкага, адправілі ў Лапы. Я працаваў там да 1945 года пры чыгуначных машынах. Немцы музычныя інструменты вывезлі ў Кёнігсберг, а яўрэяў вынішчылі ў Траблінцы. Толькі гэтая фатаграфія ў саліднай рамцы, якая амаль семдзесят гадоў вісіць на сцяне ў маім доме, нагадвае, што быў калісьці ў Орлі пажарны духавы аркестр.

* * *

Калісь у Орлі было малое драўлянае пажарнае дэпо, а пры ім — сапраўдны духавы аркестр. Цяпер ёсць вялікае мураванае дэпо, у якім яшчэ нядаўна бурліла культурнае жыццё. Зараз у глядзельнай зале, на знішчанай сцэне стаіць апушчанае піяніна, а частку будынка арандуе ветэрынарная лячэбніца.

**Міхал Мінцэвіч**

*Фота і рэпрадукцыя аўтара*

# Яшчэ пра трагедыю Елянкі

Спадар Мікалай Панфілюк у „Ніве" № 48 ад 1 снежня 1996 г. прывёў на памяць трагедыю жыхароў маёй вёскі паўвековай даўнасці. Паколькі той пераказ не цалкам згодны з фактамі, хачу яго больш падрабязна дапоўніць. Усе падзеі адбываліся ў гадах 1947-49.

Сваю нікчэмную дзейнасць той дэгенерат — як называе яго Панфілюк — пачаў ад узрывання снарадаў, якіх пасля вайны нямала асталося ў нашых не толькі лясах. У свабодны час ён хадзіў у лес, збіраў снарады і на іх клаў вялікія кастры, якія падпальваў. Пакуль касцёр разгарэўся і снарады пачалі выбухаць, ён ужо паспяваў вярнуцца дадому. Пазней падпальваў гаёўку; за першым і другім разам жыхары маёй вёскі пагасілі пажар, але на трэці раз „узброіў" гаёўку ў снарады. Людзі і тады пабеглі гасіць, але калі снарады пачалі ўзрывацца, тады і людзі пабаяліся; гаёўка згарэла дашчэнту. Гаёвы тады ўжо ў гаёўцы не жыў: перабраўся ў вёску ў пакінутую пустую хату, якое жыхары эмігравалі ў БССР.

Дзесьці праз год, калі жыхары мае вёскі рыхтаваліся ехаць на велікодную Усяночную ў Дубічы-Царкоўныя, у Елянцы ўспыхнуў наступны пажар; згарэлі тады клуні і хлявы двух гаспадароў. Нагадаю чытачам, што тады гаспадарскія будынкі былі драўляныя і стаялі амаль у адной шарэнзе. Клуня і хлеў утваралі паміж сабою прамы вугол і сутыкаліся стрэхамі так, што паміж імі была яшчэ шопа, у якую ставілі воз і другія гаспадарскія прылады. Такая архітэктура спрыяла падпальшчыку. Гаспадарскія двары раздзяляліся незабудаванымі пляцамі і агародамі і таму ў адным пажары гарэла двух, трох, а то і больш гаспадароў, але не ўся вёска. У наступным пажары агонь забраў і будынкі маіх бацькоў; згарэла тады чатырох гаспадароў. У суседа, у якога ўспыхнуў пажар, згарэла карова.

І так пажар за пажарам — усіх дванаццаць, ад якіх пацярпелі амаль усе гаспадары; некаторыя і двойчы. Пажары ўспыхвалі найчасцей вечарам. Наш піраман, як выказала пазнейшае следства, выкарыстоўваў той час, калі людзі яшчэ хадзілі, быў рух на панадворках. Залазіў ён тады па вугле пад страху і кідаў банку з-пад кансерваў з намочанай у нафце і падпаленай тканінай. Сам вяртаўся дахаты, а калі агонь разгараўся, ён разам з другімі бег яго гасіць. Падпальваў толькі клуні і хлявы. Аднойчы падпаліў хату свайго дзядзькі, але пажар хутка згасілі. У іншым пажары згарэла адна хата — вецер занёс на яе запалены куль ад страхі.

Ніхто не знаў прычыны столькіх пажараў. Людзі думалі, што гэта справа лясных бандаў. Гаспадары цэлымі ночамі пільнавалі сваіх будынкаў: па двух-трох, з сабакамі. Расказвалі пазней, што не раз былі спробы падпалаў, але сабакі сваім брэхам сігналізавалі падыход чужога чалавека. Пільнаваць узяліся — сакрэтна — і функцыянеры бяспекі; жыхары вёскі пра гэта не ведалі. І тады наступіў апошні пажар.

Жыхары Елянкі ішлі ў першы дзень Вялікадня на вячэрню ў дубіцкую царкву. Побач гасцінца — шашы тады яшчэ не было — прабягала сцяжынка, над якою расла разгалістая сасна. Там пакладзена была пісулька, а ў ёй стаяла прыблізна так: „Пільнуеце клуні, хлявы — буду паліць хаты". Рашэннем маіх аднавяскоўцаў было звярнуцца з малітвай да Бога. Калі зайшлі ў царкву, заказалі адразу малебен з гэтай задумай. Пасля літургіі паступіла вестка, што гарыць Елянка. Усе з Елянкі, што былі ў царкве, кінуліся бягом дадому. Бягуць-бягуць, і духу не хапае, і быццам у месцы стаяць — так пасля расказвалі. Калі нарэшце прыбеглі ў вёску, злачынца быў ужо злоўлены. Як дайшло да гэтага?

Калі жыхары беглі да пажару — не ўсе былі ў царкве, — разам з усімі прыбег і падпальшчык. Былі таксама і прадстаўнікі бяспекі; адкуль яны там узяліся — ніхто не ведаў. Яны, згодна сваім абавязкам, насамперш забяспечылі сляды, якія ад агародаў вялі да падпаленых будынкаў і пачалі прыглядацца да слядоў прыбегшых да пажару. Вiноўнік тады падаўся дадому, каб памяняць абутак. І калі пераскокваў цераз плот на свой панадворак, побач спяшаў да пажару другі аднавяскоўец, які зайшоў за падпальшчыкам у хату і такім чынам не пазволіў яму на змену абутку з характарнай падбіўкай. Разам пабеглі да пажару і там функцыянеры бяспекі арыштавалі падпальшчыка — забяспечаныя сляды на агародзе былі яго слядамі. Людзі хацелі зразу ўчыніць самасуд, але „ўлада" не дапусціла і перадала яго ў органы правасуддзя.

Падчас следства падпальшчык паказаў, што намаўлялі яго трох аднавяскоўцаў, і іх арыштавалі. Аднак у судзе ён адклікаў гэтыя паказанні, паясняючы, што яго падчас следства білі, і каб перасталі біць, ён і паказаў на аднавяскоўцаў. Суд засудзіў яго на дзесяць гадоў турмы. У той час вялася вярбоўка „добраахвотнікаў" на вайну ў Карэі і вязням абяцалі зняць палову пакарання. Наш піраман падаўся тады на тую вайну і, праўдападобна, ужо на самым пачатку атрымаў лёгкае раненне. Калі быў у шпіталі, вайна спынілася і ён вярнуўся ў Польшчу, але не ў Елянку, толькі ў нейкі ПГР пад Алецкам, куды пераехала яго сям'я пасля ягонага арышту.

Гэтак закончылася трагедыя маіх аднавяскоўцаў. Можа не ўсё было так, як я тут напісаў, бо за гэтакі час і памяць падводзіць. Як было ў сапраўднасці, можа помніць сам той піраман або запісы ў судовых архівах.

**Міхал Голуб**

# Позірк у мінулае

**18 сакавіка**

1584 г. — памёр Іван IV Грозны (Жахлівы), першы расейскі цар. Іван IV нарадзіўся 25 жніўня 1530 г. у Маскве. Тры гады пазней памёр яго бацька Васіль III, маскоўскі вялікі князь. Дзяржаваю стала кіраваць Іванава маці Ялена Глінская. Пры яе панаванні пачаўся перыяд інтрыганства і змагання за ўладу паміж баярскай знаццю, чаго не спыніла і смерць Ялены ў 1538 г. На хваравітага Івана баяры не звярталі большай увагі. У 1547 г. быў ён каранаваны на цара. У тым жа самым годзе Іван ажаніўся з Анастасіяй Раманавай (род Раманавых, які панаваў у Расеі ў 1613—1917 гг., пазней абасноўваў на гэтым свае права на расейскі трон). Анастасія памерла ў 1560 г. і Іван пазней яшчэ некалькі разоў жаніўся, аднак з ніводнай з пазнейшых жонак не быў так шчаслівы, як з Анастасіяй. Гады 1547—1560 былі канструктыўным перыядам панавання цара: стварыў ён кансультацыйную раду, заснаваў Земскі сабор (1549 г.), упарадкаваў заканадаўства (*Судебник*, 1550 г.), правёў адміністрацыйную і налогавую рэформы. У 1551 г. склікаў царкоўны сабор, якога пастановы, спісаныя ў ста раздзелах (*Стоглав*), прадугледжвалі м.інш. абавязак адкрываць прыхадскія школы. Іван IV далучыў да Расеі дзве першыя неславянскія дзяржавы — Казанскае (1552 г.) і Астраханскае (1556 г.) татарскія ханствы, што дало панаванне над цэлай Волгай і доступ да Каспійскага мора. Пачалося таксама расшырэнне дзяржавы за Урал. Смерць Анастасіі ў 1560 г. адмяніла паводзіны Івана. Абвінаваціў ён найбліжэйшых дарадцаў, што падбухтораныя баярамі прычыніліся да смерці жонкі. У 1564 г. выехаў з Масквы ў Аляксандраўскую Слабаду і згадзіўся вярнуцца ў сталіцу з умовай пашырэння сваёй улады: заснавання *апрычніны* і пакарання баяраў, якіх абвінавачваў у здрадзе. Апрычніна была выдзеленай палітычна і тэрытарыяльна часткай дзяржавы, у якую ўвайшлі багацейшыя гарады, гандлёвыя шляхі і землі найбагацейшых баяраў. З мэтай ліквідацыі апошніх была створана новая Іванава гвардыя — апрычнікі. Ацэньваецца, што было ліквідавана да 10 тысяч баяраў; уратавалася нямнога старых родаў, ды і яны былі даведзены царом да руіны. Цярпелі не толькі баяры. У 1570 г. даложана цару, што Вялікі Ноўгарад збіраецца прыняць літоўскае падданства (у 1557—82 гг. Расея вяла Лівонскую вайну з польска-літоўскай дзяржавай за доступ да Балтыкі). Апрычнікі сагналі з Ноўгарада і наваколля святароў, манахаў і гарадскую знаць, якіх пазвязвалі і пасля прыезду цара пазабівалі дубінкамі насмерць. Потым бралі другіх жыхароў горада і пасля зверскіх здзекаў валаклі на возера Волхаў, дзе тапілі іх пад лёдам разам з жонкамі і дзяцьмі.

1780 г. — нар. Мілаш Абрэнавіч, заснавальнік сербскага манаршага роду Абрэнавічаў. Мілаш, неадукаваны вясковы гандляр удзельнічаў у першым сербскім паўстанні ў 1804—13 гг. супраць турэцкага панавання, якім кіраваў Карагеоргій Пятровіч. Пасля падаўлення паўстання туркамі Пятровіч выехаў у Расею, а Мілаш астаўся на радзіме, уздымаючы другое, больш паспяховае паўстанне ў 1815 г. Туркі прызналі яго вялікім князем і правадыром сербскага народа. У 1817 г. загадаў забіць вярнуўшагася з Расеі свайго канкурэнта да вярхоўнай пасады Карагеоргія. Панаваў да 1839 г., калі па патрабаванню Расеі быў вымушаны аддаць уладу свайму сыну Мілану. Вярнуўся на трон у 1858 г. Памёр 26 верасня 1860 г. **(Ш)**

# *Парнасік*

### Мір і спакой

Мір і спакой —
Са злом і цемраю вядзецца бой.
Дык няхай дабро пераможа,
Дапамажы ў гэтым Божа.
Зло зрабіць лёгка —
Для некаторых гэта палёгка.
Калі ты ў бядзе,
Ён з табою гаворку вядзе:
Я цябе вельмі „шкадую”
І „ратую”,
Ды не маю на гэта сілы
Дык прабач, мой „друг” мілы.
А ў сэрцы ён цешыцца,
Што ў галаве не месціцца.
Ды не ведае, на каго ён капае дол
І першы ўпадзе ў гэту яму-прастор;
Гэты прастор пякельны
Для ўсіх тых, хто д'яблу верны.
Адтуль ён не вернецца наверх
Бо жыў і жыве як эгаіст і звер.
Багаты беднаму не пара,
Над імі вісіць цёмная хмара.
Беднаму яна больш пагражае
І часта сілы аднімае.
Але калі ён да Бога звернецца,
Перамогі над д'яблам даб'ецца.
І тады, шчаслівы, духоўна збагацее,
Пакажацца сонца і цёплы вецер павее.
Багаты — хто ў Бога нажывае
І добрае зярно рассявае.
І вырасце колас багаты і чысты
І ўладальнік пападзе на Божыя
„лісты”.
Зрабіць дабро — справа вялікая,
Не пад сілу таму, у каго сэрца дзікае.
Багаты, скупы, матэрыяліст,
Таксама зацяты эгаіст.
Але хто мае страх Божы і спагаду,
Таго чакае вялікая радасць.
Такі чалавек не падвядзе,
А заўсёды ад бяды адвядзе.
Калі будзеш тапіцца, стане ратаваць,
Ад небяспекі не будзе ўцякаць;
Стане бараніць рашуча,
Хаця часта кончыцца яму і балюча.
І каб у свеце ўсе людзі былі такія,
Дык толькі ў казках былі б ліхія.

**Мікалай Панфілюк**

### Селянін

У летнюю спёку
І ў зімні мароз,
Ці вецер шуміць,
Ці праліўны дождж,
Заўсёды селянін
На варце стаіць.
Ён роднай зямелькай
Шчыра даражыць,
Каб збожжа пасеяць
І з поля сабраць
Ды ў нашай айчыне
Дабрабыт стварыць.
Нам праўду казалі:
— Куды не крунеш,
Дык вецер заўсёды
Дзьме ў вочы табе.
І ты падзівіся,
Разгляньця кругом —
Селянін быў бедны
Аж стаў жабраком.
Дзе збожжа прадаці,
Дзе парсюка збыць,
Што з каровай рабіці?
Не хочуць купіць.
І так наш вясковец
Пачаў гараваць,
Калі на дэмакратыю
Сацлад сталі мяняць.
Цяпер бізнесмены
Пачалі ваяваць:
За дзесяць ён купіць,
За сотню прадасць.
Надалей мужык ты
Будзеш гараваць,
Дастанеш падзяку
Навек ідучы спаць.

**Мікалай Лук'янюк**

### Прымачэнько

Прымачэнько, прымачэнько
ны можэ розжытысь.
Бо всё хочэ, бо всё хочэ
горылкі напытысь.

Жунка просыт, жунка плачэ
Пэрэстань ты пыты.
Бо мні трэба, бо мні трэба
діткі накорміты.

А вун кажэ: „П'ю, бо тяжка
мні прымацкая доля.
Думав в жункі грошы з працы,
а у еі — з поля”.

**Мар'я Пень**

# ВЕР — НЕ ВЕР

Дарагі Астроне! Я заўсёды з увагай чытаю тваю рубрыку. Праўда, ніколі я не напісала табе пра свае сны, але дзякуючы табе я і сама крыху навучылася разгадваць іх.

Некалькі гадоў таму прысніўся мне шматзначны сон. Я якраз тады была ў бальніцы, бо зацяжарыла трэцім дзіцём і крывавіла. У мяне ўжо былі два сыны, а мне так хацелася мець яшчэ дзяўчынку.

І вось сніцца мне, што я выкапала сваімі рукамі даволі вялікую яму і ўставіла туды маленькае дзіця. Я бяру рукамі жоўты, як над морам, пясок, выкапаны з ямы, і засыпаю ім тое дзіцятка. Пясок усё вышэй і вышэй — і тое дзіцятка пачынае душыцца.

І ў той момант я падумала: „Што я нарабіла?!” І пачала з жалю плакаць. Плакала так страшна, што калі прачнулася, уся была ў слязах. Хворыя, якія ляжалі са мной у адной палаце, аж перапужаліся: „Што здарылася?!”.

На наступны дзень раніцай наведаў мяне мой муж і кажа, што ў яго была мая сяstra і надта раіла дзіцяці пазбыцца. „Што вы зробіце з малым дзіцём, хто яго будзе пільнаваць, калі маці пойдзе на працу?” А мо і варта гэту справу прадумаць...

Я ізноў расплакалася, як у тым сне, і кажу, што нараджу гэта дзіця, што б там не здарылася. Нават перагаварылася з мужам. Але я настаяла на сваім.

І цяпер вось маю цудоўную дачушку, якая, думаю, будзе мне пацехай на старыя гады. Ці не здаецца табе, Астроне, што мой сон быў прарочы?! Нехта снаваў вакол мяне нікчэмныя планы забойства майго дзіцяці ў той час, калі мне прыснілася, што я закопваю яго сваімі рукамі.

**Яніна**

Яніна! Сапраўды сон быў прарочы, а тое, што ты ў сне так плакала, сведчыла б аб тым, што ты не паддасіся тым радам.

**Астрон**

# Крыжаванка




**Гарызантальна:** 4. верхняя зімовая вопратка, 7. жаночы голас, 8. соль фосфарнай кіслаты, 9. аб'ява, якая мае звярнуць увагу на тавар, 10. від боепрыпаса для стральбы, 14. расліна сямейства гарбузовых, 18. дзяржава ў Рыме, 19. дзікая каза, 20. мэта, да якой павінен імкнуцца будыст, 21. прадукт ад каровы.

**Вертыкальна:** 1. турма, 2. старажытнагрэчаскі матэрыяліст, 3. трапічная птушка сямейства буслоў, 4. уздым, энтузіязм, 5. драпежная жывёліна сямейства куніц, 6. расце на сенажаці, 11. прырода, 12. загадчык універсітэта, 13. вугальны басейн на Украіне, 15. статак авечак у горах, 16. Джардана, італьянскі філасаф (1548-1600), 17. элемент ланцуга. **(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 4 н-ра:**

**Гарызантальна:** Уганда, лунацік, Латвія, батарэя, ястраб, нектар, аркестр, Дурбан, Алабама, станок.

**Вертыкальна:** Жлобін, знаток, сцірта, укляя, астат, дзіва, Сакрат, Руслан, баркас, езуіт, табун, ранак.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Міхалу Байко** і **Аляксандру Дабчынскаму** з Беластока.

# Паліцыйныя выданні

Выдавецкі аддзел Паліцыйнай акадэміі ў Шчытне выпусціў у мінулым годзе каля сарака кніжак тыражом больш за дзесяць тысяч паасобнікаў. Найбольшым зацікаўленнем сярод іх карыстаўся польска-англійска-французска-нямецка-расейскі слоўнік паліцыйна-прававых тэрмінаў. Выдадзена таксама польска-літоўскі слоўнік для патрэб пагранахоны, у якім больш за 2 600 артыкулаў; у падрыхтоўцы да выдання такі ж слоўнік польска-беларускі. У выдавецкім плане знаходзіцца таксама падручнік паліцыянта, дзе будзе ўсё пра прынцыпы паводзін паліцыянтаў у розных абставінах. Апрача кніжак выдавецтва выпускае штоквартальны „Przegląd Policyjny” а таксама вучэбны паліцыйны бюлетэнь.

**Андрэй Гаўрылюк**




„**Niwa**”, ul. Zamenhofa 27, 15-959 Białystok, skr. poczt. 149, tel./fax 435-022.

Druk: „ORTHDRUK”, Białystok, ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Мірановіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:** Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”. Старшыня Праграмнай рады: Валянцін Сельвясюк.

**Prenumerata.**

1. Termin wpłat na prenumeratę na II kwartał 1997 r. upływa 5 marca 1997 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały „Ruch” na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na II kwartał wynosi 13 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa. Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-16551-2700-1-06.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1,90 zł, a kwartalnie — 24,70 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa”, Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 11101154-207917-2700-1-65.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

# Пародыі

**Плывец-здраднік**

*Ты пераплывеш цераз мяне...*
*Затрымаўся*
*нахіліўся*
*І цяжка грудзі танцуюць*
*усё танцуюць*

*Раз угару*
*раз уніз...*

***Ірына Баравік***

Пераплыў ты Фінскі заліў,
І Рыжскі заліў пераплыў.
Сто грам табе ў Вільні наліў
Стары беларус, што там жыў.
І морам Балтыйскім ты плыў,
І мужна на Віслe трымаўся.
Хацеў праз мяне пераплыць —
Між сопак-грудзей затрымаўся.
А грудзі скакалі ўгару,
А грудзі мае танцавалі.
Казала табе: „Забяру,
Мой любы, ў грудзястыя хвалі".
А ты праз мяне усё плыў —
Баяўся ўтапіцца — застацца,
І грудзі рукамі лавіў,
Нібыта хацеў ратавацца.
Ты плаваў за ўсіх шпарчэй,
З табою была я рада...
Плыві, мой каханы, далей
Ў Алжыр, Камерун і Руанду.

**Сяргеі Чыгрын**

# Рагатуха. Ха-ха!

У панядзелак 3 сакавіка, пасля поўдня, слухачы Радыё Беласток тэлефанавалі ў студыю і расказвалі смешныя гісторыі са сваёй працы. Да адной прадаўшчыцы ў мясной краме некалькі гадоў таму прыйшла жанчына і спытала:

— Czy są husi?

Яна не ведала, што адказаць і пайшла папытацца ў кіраўнічкі.

— A ona powiedziala mi, że to po prostu gęsi. Ha-ha-ha!

Вельмі смешна. Ха-ха-ха!

**(ак)**

# Ніўка




У кіпцюрах цецерука

## Вясёлы аўтобус

— Напэўна студэнт, — падумаў я, прыкмеціўшы незнаёмую асобу на вакзале ў Любастоку.

— Напэўна пісьменнік — як потым выявіцца, падумаў ён, убачыўшы мяне.

Выпадкова едзем у адзін бок, у аўтобусе, выпадкова, няма апрача нас ніякіх пасажыраў, а ўжо зусім выпадкова сядаем побач сябе.

— Напэўна інтэлектуалы, — падумаў вадзіцель і едзе памаленьку, каб наша сустрэча працягвалася магчыма найдаўжэй.

— А я вас ведаю, — студэнт адзываецца першы.

— Ого, — думаю, — начытаны. А ўголас пытаю: — Пэўна з „Яблычнага садка?"

— З садка. Вы хіба не помніце: пракрадваліся мы, жэўжыкі, за яблыкамі, а вы нас крапівою па срацы, па срацы...

Апошнія словы мой субяседнік выгукнуў занадта галасна. І зусім непатрэбна. „Гаўно не інтэлектуалы", — падумаў вадзіцель і паскарыў ход аўтобуса. „Пара інтэрвеніраваць, — падумаў я. — Адлегласць з Любастока ў Лаеўку не такая ўжо і вялікая. А матэрыял трэба прынамсі на старонак шэсць".

— Спадар вадзіцель, — гавару. — Гэта толькі ўводзіны, прэлюдыя, так сказаць. Далей пойдуць справы вельмі важныя. Едзьце, калі ласка памалей, інакш не паспеем.

— Калі ласка, — адказаў вадзіцель і аўтобус пачаў ехаць памалу. У палове дарогі бачу, што як не цягні, а матэрыялу хапае на старонак дзве.

— Спадар вадзіцель, — гавару. — А мо так вернемся, калі ласка, кіламетраў дзесяць?

— Калі ласка, — адказаў вадзіцель і ўключыў задні ход.

І хаця аўтобус пакаціўся назад, наша гутарка паступала наперад. Гэта значыць — гутарыў студэнт, а я запісваў, а нават слухаў. Я слухаў вельмі ўважна і нават не прыкмеціў, на якім паўстанку выйшаў мой субяседнік.

— Скажыце, калі ласка, — пытаю вадзіцеля, — на якім паўстанку высаджваўся мой субяседнік?

— Калі ласка. Аднак ніякага субяседніка я не бачыў, — адказвае вадзіцель, а мне робіцца страшна. Халодны пот аблівае цела, а нават кашулю, бо, аказваецца, вёз мяне сляпы вадзіцель. Толькі шчасліваму выпадку трэба дзякаваць, што дзяржаўная маёмасць, г.зн. аўтобус і грамадская ўласнасць, г.зн. я, даехалі ў Лаеўку непашкоджанымі.

**Міхась Андрасюк**

# „Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка

— Мікола, які твой сусед?

— Зусім неклапатлівы: сварыцца і авантуруецца дакладна тады, калі і я.

* * *

Дырэктар да сакратаркі:

— Чаму вы спазніліся на працу?

— Бо позна выйшла з дома.

— Чаму?

— Бо калі глянула на гадзіннік, дык было ўжо запозна, каб выйсці раней.

* * *

На дзвярах начнога клуба вісіць картачка: „Сённяшняй ночы стрыптызу не будзе, бо танцорцы ўкралі вопратку, з якой мела яна распранацца".

* * *

— Прашу распрануцца, — загадвае лекар маладой хворай.

Яна нічога.

— Вы яшчэ ніколі не распраналіся перад мужчынам? — цікавіцца лекар.

— Распраналася, ды заўсёды ўпоцемку і не перад лекарам.

* * *

Гутараць два сябры:

— Учора атрымаў я ад лекара бальнічны ліст на два тыдні, а сёння, уяві сабе, здарылася няшчасце!

— А што сталася?

— Захварэў.

* * *

— Як можаце прасіць дазволу выпіць чарку гарэлкі! Я ж вам толькі тыдзень таму строга забараніў піць алкаголь, — нервуецца лекар.

— Я думаў, што за той час медыцына зрабіла вялікі крок наперад, — адказвае хворы.

* * *

У лекара:

— Падазраваю, што вашы клопаты вынікаюць з празмернага п'янства. Скажыце шчыра, ці часта адчуваеце гвалтоўную патрэбу выпіць чарку гарэлкі?

— Аж да такіх цяжкіх станаў я не дапускаю: у буфеце ў мяне заўсёды бутэлька напагатове.

# Сардэчныя ТАЙНЫ

Ведаеш, Сэрцайка, магла я спадзявацца ўсяго, ды толькі не таго, што здарылася. Мая сяброўка рабіла „прыватку" і запрасіла мяне. Я, праўду кажучы, яшчэ на прыватках не бывала, дык вельмі хвалявалася, як усё гэта адбудзецца. Ага, я забылася табе сказаць, што мы з сяброўкай вучымся ў другім класе тэхнікума. Ці будзе гэта, як на імянінах, якія мне бацькі спраўлялі штогод — з салодкім і гарбаткай? А мо будзе алкаголь? Ва ўсякім разе сяброўка ўсе выдаткі ўзяла на сябе. Хата ў іх была вялікая — цэлая віла, дык гасцей можна было запрашаць. Сяброўчыны бацькі выехалі якраз на адпуст у суседнюю мясцовасць.

Мо так і добра было, што сяброўка назапрашала розных хлопцаў і дзяўчат, неабавязкова „парачкі". Кожны мог сабе выбраць партнёра, каб пагуляць. Было віно, гарэлка для хлопцаў, канапкі.

Спачатку я адчувала сябе не надта добра, бо знаёмых было вельмі мала. Але, выпіўшы крыху віна, мне стала прыемней, і хутка ўсе прысутныя сталіся знаёмымі.

Танцавалі пад касеты і кампактныя пласцінкі. Было весела, хаця я крыху баялася, каб не спазніцца дахаты: бацькі загадалі да дванаццатай гадзіны вярнуцца. Не магу сказаць, што мне хтосьці з гэтай кампаніі асабліва спадабаўся, але гуляла я добра.

Праз нейкі момант я заўважыла, што ў вялікім пакоі, дзе мы былі, неяк папусцела. Я думала, што моладзь пачала разыходзіцца па хатах, але гаспадыня прыватки паведаміла мне таямнічым шэптам, што ўсе пакуль што яшчэ тут, ды толькі разбрыліся па пакоях. Мяне нешта цюкнула: а што яны там робяць? Сяброўка толькі таямніча ўсміхнулася: ой, зялёная ты, сказала, зялёная...

Не магу сказаць, што я не піла віна да гэтай прыватки. Аднак жа на гэты раз яно мяне змагло. У галаве спачатку зашумела, пасля закруцілася, і я зразумела, што не ўтрымаюся на нагах. У пакоі заставалася ўсяго чалавек сем, калі сяброўка з нейкім хлопцам завялі мяне ў асобны пакойчык, дзе стаяла вялікая канапа. Я толькі прылегла — і адразу заснула.

Не ведаю, колькі часу прайшло, мо нейкіх паўгадзіны, як я ўпоцемках адчула, што нехта ўвайшоў у пакой. Зблізка я ўбачыла, што гэта той хлопец, які мяне вёў з сяброўкай у гэты пакой. Не ведаю, ці быў гэта яе кавалер, я іх разам ніколі не бачыла. Мяркую, што быў гэта толькі яе знаёмы.

Увайшоў у пакой і ціхенька лёг на канапу побач са мною. Я прытварылася, што ўсё яшчэ сплю, і ён, відаць, не хацеў будзіць мяне. „Чаго ён прыйшоў сюды? — ліхаманкава думала я. — Не было дзе прылегчы, бо ўсе месцы былі занятыя? А мо вырашыў, што і я з тых «лёгкіх» дзяўчат, з якімі вялікіх праблем не бывае?!"

З гэтымі думкамі я зноў задрамала. Калі прачнулася, аж здранцвела: першая гадзіна! Саскочыла я з гэтай канапы і адразу ў вялікі пакой. Бачу, мая сяброўка і пару яе знаёмых сядзяць пры стале з каменнай мінай і зверху ўніз мераюць мяне сваімі позіркамі. Зараз жа за мной выйшаў з таго пакойчыка і хлопец, які „пераспаўся" са мною. Кашуля расхрыстаная, рамень на штанах расшпілены.

Сэрцайка! Мне стала мотатшна. Каму і што ён хацеў даказаць? А мо ён і мне падсоўвае думку, што зрабіў „гэта", калі я спала? Дурань, я ж яшчэ дзеўка і ў такія „гульні" пакуль што не гуляла. Лёгка гэта было б праверыць, але няма каму тут даказваць.

Сорамна мне было і ніякавата. Чаму з мяне зрабілі ахвяру?! А сяброўка? Каб ты толькі чула, што яна на мяне пачала вычаўпляць! Усё „к..." ды „к...", лаяла мяне апошнімі словамі. Я маўчала, не бачачы тут сваёй віны. Пэўна, гэты хлопец яе кавалерам не быў, калі яна дазволіла яму ўвайсці ў пакой, дзе была я, але, відаць, было, ён ёй вельмі падабаўся. Адна паехала я на таксі дахаты.

Цяпер мы з гэтай сяброўкай сталі ворагамі. Яна мяне нават не заўважае ні ў школе, ні на вуліцы. А я ж ёй нічога не зрабіла...

**Эля**

Эля! Сяброўка выразна была зайздросная. Мо лічыла, што яна як гаспадыня мае права выбіраць. А гэты хлопец пайшоў да цябе. Мо чакаў там твайго знаку, які сведчыў бы аб заангажаванні. Калі не дачакаўся, вырашыў прынамсі „даказаць", што ён свайго дабіўся. Ого! Ляжаць побач з дзяўчынай і ніц — гэта не гадзіцца.

А мо ён хацеў выклікаць зайздрасць у тваёй сяброўкі, каб захацела быць з ім. Але ж, каб яны цяпер хадзілі, то сяброўка хутка перастала б гневацца на цябе.

Так ці інакш, пусты гэта хлопец, ды і сяброўка мерае ўсіх дзяўчат на адзін капыл. Нічога ты не страціла, што няма гэтых людзей цяпер у ліку тваіх блізкіх сяброў.

**Сэрцайка**